ЛіМ

ГАЗЕТА
ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ
БЕЛАРУСІ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

13 КАСТРЫЧНІКА 1995 г. № 41 (3813) Кошт 2 500 руб.

# ЁСЦЬ МОВА — ЁСЦЬ КРАІНА!

***ВЫСТУПЛЕННЕ СТАРШЫНІ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ М. І. ГРЫБА НА IV З'ЕЗДЗЕ ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ ІМЯ ФРАНЦІШКА СКАРЫНЫ***

Шаноўнае спадарства!

Паважаныя сябры беларускай мовы!

Скажу шчыра: мне вельмі прыемна быць сёння сярод вас! Быць сярод сумленных і праведных адраджэнцаў беларушчыны, сярод сапраўдных свяціл сучаснай беларускай нацыянальнай культуры. Такія падзеі, як ваш з'езд, такія сустрэчы пакідаюць след і памяць назаўсёды. І я ганаруся тым, што знаходжуся сёння разам з вамі!

Таварыству беларускай мовы імя Францішка Скарыны ўсяго некалькі гадоў. На вялікі жаль, мала, да крыўднага мала ў нас сёння такіх аб'яднанняў і суполак, як ваша, якія б сумленна і праведна, мужна і адкрыта спавядалі б свае мэты і задачы ў імя беларускага нацыянальнага Адраджэння. Думаю, не перабольшу, калі скажу, што асноўная мэта вашага таварыства — па-сапраўднаму святая. А заключаецца яна, як запісана ў пасведчанні аб рэгістрацыі вашага аб'яднання, у "аднаўленні ў грамадстве стаўлення да роднай мовы як да нацыянальнай святыні, пашырэнні ўжытку ва ўсіх сферах жыцця Рэспублікі Беларусь, усебаковым развіцці і захаванні яе чысціні і самабытнасці, садзейнічанні забеспячэнню ёй статуса адзінай дзяржаўнай мовы".

Такога таварыства, як ваша, наколькі мне вядома, акрамя Украіны, няма больш ні ў адной краіне свету. І калі зыходзіць з логікі, здаровага сэнсу гэта — не натуральна. Сапраўды, дзе, у якой яшчэ дзяржаве ёсць патрэба ў абароне роднай мовы, дзяржаўнай мовы?! Цывілізаваны свет да такога проста не дадумаўся.

А вось нам, беларусам, абараняць, прапагандаваць, распаўсюджваць роднае слова не тое што трэба, а проста неабходна. Хаця ўсім павінна быць зразумела: ёсць мова — ёсць нацыя, ёсць краіна! Няма мовы — няма нацыі, няма краіны!

Такія мае асабістыя падыходы да гэтага вельмі важнага дзяржаўнага пытання. І сказаў я ўсё не таму, што супраць Таварыства беларускай мовы, а таму, што ўпэўнены: у нашай складанай сітуацыі гэта — адно з выйсцяў са становішча.

Я асабіста не сумняваюся ў тым, што на вашым з'ездзе атрымаецца шчырая, глыбокая і зацікаўленая размова. І пойдзе гэта размова шмат па якіх накірунках. Бо вымагае таго час, тая рэчаіснасць, у якой мы апынуліся і вымушаны жыць і дзейнічаць.

Не думаю, што перабольшу, калі скажу: сёння мы жывём у час трывогі.

Трывогі за суверэнітэт і незалежнасць Рэспублікі Беларусь.

Трывогі за наша нацыянальна-культурнае Адраджэнне.

Трывогі за ўсё беларускае!

На вялікі жаль, ёсць і іншыя трывогі. І наша з вамі задача, наш з вамі святы абавязак — супрацьстаяць ім, не дазволіць пэўным сілам вярнуць Беларусь туды, дзе яна была яшчэ нядаўна!

Мы павінны быць вытрыманымі і мужнымі ў сваіх дзеяннях, перакананымі, што робім добрую, патрэбную і справядлівую справу.

Разам з тым я добра ведаю: ідэалы незалежнасці рэспублікі, ідэалы адраджэння нацыі сёння дарагія большасці нашага народа. І для таго, каб пераканацца ў тым, не трэба праводзіць рэферэндумы, заказныя апытанні і анкеціраванні. Трэба проста пабываць сярод простых людзей, пацікавіцца: чым, як, на якія сродкі, у імя чаго жыве наш чалавек сёння?!

Я цвёрда перакананы ў тым, што матэрыяльная нястача, недахват сродкаў на прыстойнае чалавечае існаванне — а гэта мы маем зараз скрозь і ўсюды — не прымусяць наш народ здаць суверэнітэт, пайсці да кагосьці па міласціну.

Шаноўнае спадарства!

Наша родная мова, як і зусім у недалёкія часы, зноў выцясняецца са штодзённага ўжытку. Выцясняецца на беларускім радыё і тэлебачанні, у іншых сродках масавай інфармацыі. Яшчэ больш трывожна за тое, што спыняецца адраджэнне нашай нацыянальнай школы. Дзе гвалтам, а дзе — з дапамогай ашуканства — ідзе русіфікацыя не толькі школ, тэхнікумаў, ВНУ, а і ўстаноў і арганізацый. Сумна ўсё гэта і трывожна. І давайце сёння разам падумаем, як гэты працэс спыніць!

Я не хачу сённяшнім выступленнем даць падставы гаварыць пра мяне як пра прапаведніка русафобіі. Я зусім не супраць прыгожай рускай мовы, але кожная павінна займаць сваё месца ў нашай краіне.

Пагэтаму давайце працаваць!

Праца, якая чакае нас усіх наперадзе, запатрабуе вялікіх сіл, энергіі, сапраўднай мужнасці. Але іншага выйсця няма. Наш народ, яго Вялікасць Беларуса трэба ў прамым сэнсе слова ратаваць. І найперш — праз абарону роднай мовы!

Я выдатна разумею: шлях да таго, калі беларускае слова сагрэе душы і сэрцы нашых людзей, яшчэ далёкі. Але гэта ваш, і мой асабісты, наш агульны шлях. Пойдзем разам! Я — як чалавек і грамадзянін, як дэпутат Вярхоўнага Савета цяперашняга, дванаццатага і наступнага, трынаццатага скліканняў — гатовы ісці з вамі! Я веру ў сваю Айчыну!

Дзякуй за ўвагу!



*"З інакшай думкай пойдзе ў свет і людзі
Патомак гэты наш..."*
*Янка КУПАЛА*

*Фота А. КЛЕШЧУКА*

***Каторы ўжо нумар запар галоўным героем лімаўскай “вертыкалі” — “Кола Дзён” — з’яўляецца Аляксандр Рыгоравіч. Так, пэўна, будзе і гэтым разам. Бо не дазваляе наш прэзідэнт забыцца пра сябе, не дае адпачынку ні сабе, ні журналісцкім пёрам, бо і сапраўды — з нашым прэзідэнтам не даводзіцца сумаваць...***

### *ПРЫНЦЫПОВАСЦЬ ТЫДНЯ*

Канстытуцыйны суд прызнаў усё-такі Указ прэзідэнта N 267, паводле якога ўносіліся змены ў мясцовыя бюджэты і прыпыняліся некаторыя льготы ваеннаслужачым і супрацоўнікам МУС і КДБ, устанаўлівалася платнае навучанне ў вячэрніх школах і павялічваліся акцызы на гарэлку і інш. — не адпавядаючым Канстытуцыі і законам Рэспублікі Беларусь. Гэтае рашэнне дае падставы для размоў аб магчымым імпічменце прэзідэнта. Толькі хто зможа гэта зрабіць?.. Зразумела, найперш Вярхоўны Савет, легітымнасць якога пацвердзіў на сваім апошнім пасяджэнні Канстытуцыйны суд. Толькі вось ці зможа быць наш цяперашні ВС гэтакім прынцыповым у адстойванні справядлівасці, як КС.

### *“РАМОНТ” ТЫДНЯ*

З месяц таму прэзідэнт прыняў рашэнне аб адмене льгот для міліцыянераў і ваеннаслужачых, у тым ліку і тых, што тычыліся бясплатнага праезду на транспарце. Паспешлівасць і непрадбачлівасць гэтага рашэння заўважалася ўжо тады. І вось у рэшце рэшт прэзідэнт быў вымушаны прызнаць сваю памылку і даць распараджэнне аб увядзенні спецыяльнага знака на дазвол бясплатнага праезду ваеннаслужачым і міліцыянерам. Пасля многіх апошніх указаў прэзідэнта і дапрацовак, “ рамонту” іх услед, прыгадваецца адна савецкая народная прыкмета: “На вашай вуліцы паклалі новы асфальт — значыць, чакайце, што хутка яго будуць зрываць і пракладваць трубы...”

### *ЦЫТАТА ТЫДНЯ*

“Калі большасць былых дзяржаў Савецкага Саюза сілаю вядуць у расійскае лона, Беларусь, трэцяя “славянская” апора былога СССР, дзіўным чынам вылучаецца быццам бы добраахвотным адмаўленнем ад суверэнітэта, аб’яўленага ў 1991 годзе ў час гістарычнага саміта ў Мінску, які завяршыў 70-гадовую эру савецкага камунізму. Гэтая асаблівасць не столькі з’яўляецца паказчыкам слабасці нацыянальнае самасвядомасці жыхароў Беларусі, якой на працягу стагоддзяў кіравалі то з Масквы, то з Варшавы, колькі вынікам жорсткага эканамічнага маразму, які прымушае насельніцтва гэтай краіны прымаць Расію за краіну казачных багаццяў. Вярнуўшы на травеньскім рэферэндуме старыя сімвалы, праўда, без сярпа і молата, беларускія выбаршчыкі таксама выказаліся за эканамічную інтэграцыю з Расіяй. Але гэтае збліжэнне, лепш сказаць, зліццё, у многім з’яўляецца вынаходствам непрадказальнага і вельмі аўтарытэтнага прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі. Карыкатурнае ўвасабленне “гома саветыкуса”, гэты былы дырэктар саўгаса ўжо паказаў сябе ў 1991 годзе, калі быў адзіным дэпутатам, які прагаласаваў супраць незалежнасці”. *(Газета “Свабода”, N 41, перадрук артыкула з газеты “Le Monde”).*

### *БЯСПЕКА ТЫДНЯ*

Нічым закончылася нядаўняя сустрэча міністраў замежных спраў краін СНД у Маскве. На разгляд было вынесена 17 дакументаў, у тым ліку аб удзеле войск краін Садружнасці ў міратворчых аперацыях Расіі ў краінах постсавецкае прасторы, а таксама аб стварэнні рабочых органаў для кіраўніцтва гэтай дзейнасцю, але ні адзін з іх не быў падпісаны. Ніхто не хоча пасылаць сваіх дзяцей ваяваць за чужыя інтарэсы. Шмат вады сцякло з таго часу, як за сваё нежаданне падпісаць дакументы аб калектыўнай бяспецы “зляцеў” С.Шушкевіч, а справа так і не зрушылася з месца. Хоць сёй-той на нейтральнай Беларусі вельмі ж дамагаецца ваеннага саюза з ваюючай суседкай.

### *ФАКТ ТЫДНЯ*

З трыльёны 974 мільярды 67 мільёнаў беларускіх рублёў складае на верасень агульны доўг Беларусі за расійскі газ. Нягледзячы на запэўніванні прэзідэнта, што ён апошнім часам плаціць за ўсё і што яму дарага абыходзіцца незалежнасць, гэта лічба пастаянна расце. Павялічваецца і наш доўг за электраэнергію, мазут... Гэта ж пацвердзіў у сваім інтэрв’ю газеце “Имя” былы старшыня Нацбанка С.Багданкевіч: “Гэта няпраўда, што з моманту прыходу новай улады мы плацім Расіі за энерганосьбіты па льготных расцэнках. Даўгі за энерганосьбіты ў нас выраслі амаль на дзевяноста мільёнаў долараў, а ў апошнія месяцы неплацяжы павялічваюцца і складаюць каля 50 працэнтаў...”

### *ЮБІЛЕЙ ТЫДНЯ*

**Газета “Рэспубліка” на мінулым тыдні адзначыла выхад свайго 1000-га нумара. За кароткі час гэтае выданне ўвайшло ў лік самых папулярных і тыражных на Беларусі. Хай і са спазненнем, але далучаемся да віншаванняў, што прагучалі ў гэтыя дні ў адрас калег. Ад “ЛіМа” ж пажадаем, каб “Рэспубліка”, нарэшце, стала не па статуце, а наяве, двухмоўным выданнем...**

### *СУСТРЭЧА ТЫДНЯ*

**У перапынку футбольнага матча паміж нацыянальнымі зборнымі Беларусі і Чэхіі аматары футбола згледзелі ў гасцёвай ложы стадыёна ўсенароднаабранага. І прывіталі яго дружнымі крыкамі “Жыве Беларусь!”, размахваннем бел-чырвона-белым сцягам і свістам. Прэзідэнт сустрэў прывітанні, якія надта былі падобнымі на нешта зусім іншае, стрымана і футбол дагледзеў да канца.**

### *ЛАЎРЭАТЫ ТЫДНЯ*

У Маскве падведзены вынікі чацвёртага Міжнароднага кінафестывалю славянскіх і праваслаўных народаў “Залаты віцязь”. Сам “Залаты віцязь” прысуджаны Прэзідэнту Беларусі А.Лукашэнку, “Сярэбраны віцязь” дастаўся Уладзіміру Замяталіну. Усяго ж беларускія кінематаграфісты атрымалі шэсць высокіх узнагарод. “Скульптуру воіна-пераможцы” за фільм “Нянавісць” заваяваў на фестывалі Юрый Азаронак.

### *АБСУРД ТЫДНЯ*

Прэзідэнт прыняў рашэнне аб увядзенні адзінага палітдня, на якім у рабочых калектывах будзе тлумачыцца палітыка... краіны. У суцэльныя палітінфармацыі ператварыліся апошнім часам выпускі навін БТ і нагадваюць праграму “Время” брэжнеўскіх часоў, пра якую казалі: “И это все о нем и... немножко погоды”. Першыя палосы афіцыйных газет ператвораны ў “падручнікі” для палітінфармацый. І вось наступны крок... У савецкія часы гэтыя мерапрыемствы, памятаецца, выклікалі толькі смех. Сёння ж нам ужо не да смеху...

### *“ПРАПОЛКА” ТЫДНЯ*

11 кастрычніка чарговы нумар незалежнай штодзённай газеты “Народная воля” не выйшаў... У выдавецтве “Беларускі Дом друку” адмовіліся друкаваць газету, спасылаючыся на ліст У.Замяталіна, у якім гаварылася пра парушэнне “Народнай воляй” Закона Рэспублікі Беларусь “Аб друку...” Які канкрэтна пункт закона парушаны, ніхто не можа патлумачыць. Пагроза “прыкрыцця” навісла і над незалежнымі газетамі “Имя” і “Белорусская деловая газета”. З гомельскай друкарні “Сож” паведамілі, што ў сувязі “з прафілактычным рамонтам”, з наступнага тыдня, хутчэй за ўсё, друкаваць тут гэтыя выданні не змогуць... Мяркуючы па інфармацыі пра гэта ў “Народнай газеце”, таварыш Замяталін распачаў “цэнзарскую “праполку” газетнага агарода”...

---

*З нагоды*

# ІМЕМ ЗАКОНА

Апошнія паўгода мне асабіста некаторыя публічныя выказванні прэзідэнта А. Лукашэнкі нагадвалі прамовы аднаго са старажытных рымскіх сенатараў, якія той з маніякальнай настойлівасцю заўсёды заканчваў словамі: “Карфаген павінен быць разбураны!” Разумею, што гістарычныя паралелі — рэч рызыкоўная, але ўсё ж, усё ж... Што я маю на ўвазе? Зайздроснае пастаянства, з якім Аляксандр Рыгоравіч аб’яўляе Вярхоўны Савет незаконным, немаючым права на існаванне, бо вычарпаў нібыта адпушчаны яму ліміт часу. І таму ніводнага прынятага ім заканадаўчага акта ён, прэзідэнт, прымаць да ўвагі не будзе. І гэта не былі словы, кінутыя на вецер. Прэзідэнцкія ўладныя структуры рабілі ўсё, каб перакрыць кісларод вышэйшаму органу прадстаўнічай і заканадаўчай улады — ад спынення яго фінансавання да прамога ўціску народных абраннікаў з пагрозамі пазбавіць іх працы, калі яны будуць працягваць выкананне сваіх дэпутацкіх абавязкаў.

Вось чаму такую ўвагу грамадскасці прыцягнула да сябе ініцыятыва кіраўнікоў трох праваахоўных структур краіны: старшыні Вярхоўнага суда У. Каравая, в. а. Генеральнага пракурора В. Капітана і старшыні Вышэйшага гаспадарчага суда У. Бойкі паставіць перад Канстытуцыйным судом Рэспублікі Беларусь пытанне аб адпаведнасці Канстытуцыі артыкула 7 Закона аб Вярхоўным Савеце, які вызначае тэрмін яго паўнамоцтваў.

Два дні, 11 і 12 кастрычніка, Канстытуцыйны суд на вачах шматлікай публікі, аснову якой складалі журналісты, аддаў разгляду гэтага пытання. І вось, нарэшце, пасля шматгадзіннага пасяджэння за зачыненымі дзярыма ў дарадчым пакоі, Высокі суд выходзіць у залу пасяджэнняў і вуснамі яго старшыні В. Ціхіні выносіць свой вердыкт, сутнасць яго такая: з-за таго, што на мінулых выбарах новы склад Вярхоўнага Савета не быў абраны ў прадугледжанай законам колькасці і прыступіць да выканання сваіх абавязкаў да правядзення дадатковых выбараў не можа, лічыць артыкул 7 Закона аб Вярхоўным Савеце, які прадугледжвае працяг яго паўнамоцтваў да першага пасяджэння новаабранага складу парламента ў прадугледжанай законам колькасці, — адпаведным Канстытуцыі і, такім чынам, цяперашні, 12 склікання склад Вярхоўнага Савета з’яўляецца законным. У прававой дзяржаве, адзначана ў рашэнні Канстытуцыйнага суда, не павінна ствараецца становішча, пры якім адна з галін улады, у дадзеным выпадку заканадаўчая, можа аказацца паралізаванай, пазбаўленай магчымасці нармальна функцыянаваць.

**P. S.** Пасля аб’яўлення судовага рашэння журналісты ўзялі ў “палон” В. Капітана і У. Бойку (У. Каравай паспеў з залы знікнуць), закідаўшы іх пытаннямі адносна толькі што прагучаўшага вердыкту КС. Трэба сказаць, што і адзін, і другі не выглядалі засмучанымі і нават выказалі сваё задавальненне тым, як скончылася справа. Сваю ініцыятыву звярнуцца ў Канстытуцыйны суд яны вытлумачылі пільнай неабходнасцю прыняцця ў бліжэйшы час Вярхоўным Саветам шэрагу заканатворчых актаў, да прыкладу, Закона аб новым Крымінальным кодэксе краіны, Закона аб банкруцтве і інш. “Нам трэба было высветліць, ці мае цяперашні парламент для гэтага належныя паўнамоцтвы, — растлумачыў в. а. Генпракурора, — цяпер мы бачым, што мае”.

На здзеклівае пытанне аднаго з журналістаў, ці не ініцыіравалі іх “ініцыятыву” сам прэзідэнт, абодва адмоўна закруцілі галовамі, маўляў, яны свой крок з прэзідэнтам не ўзгаднялі.

Ну, што ж, паверым у гэта... Што далей? Ці дасць вердыкт Канстытуцыйнага суда, які, паводле закона, з’яўляецца канчатковым і перагляду не падлягае, спакойна і плённа працаваць парламенту? У мяне асабіста ёсць пэўныя сумненні, выкліканыя, да прыкладу, апошняй заявай прэм’ер-міністра М. Чыгіра аб тым, што, нягледзячы на рашэнне Канстытуцыйнага суда аб прызнанні не адпавядаючым Канстытуцыі прэзідэнцкага ўказа аб зменах у прынятым Вярхоўным Саветам бюджэце, ён усё роўна будзе выконваць указ. Няўжо прававыя, канстытуцыйныя нормы для нашага прэм’ера, неабавязковыя, як для любога законапаслухмянага грамадзяніна.

**М. ЗАМСКІ**

---

*Анонс*

# АКАДЭМІІ МАСТАЦТВАЎ — 50

Беларуская акадэмія мастацтваў святкуе сёлета свой пяцідзесяцігадовы юбілей. Для гісторыі паўстагоддзя — невялікі тэрмін, для акадэміі гэта адрэзак часу стаўся вызначальным. За пяцьдзесят год акадэмія нарадзілася, узмужнела і сцвердзілася ў творчай сталасці сваіх былых вучняў. Цяпер прыспеў час падсумаваць зробленае, азіраючыся на пройдзены шлях. Наперадзе — урачыстыя мерапрыемствы, што прадставяць гісторыю і сённяшні дзень акадэміі.

13 кастрычніка адбудзецца адкрыццё ў Нацыянальным мастацкім музеі выставы творчых прац выкладчыкаў акадэміі. 17 кастрычніка ў музеі акадэміі распачнецца выстава выкладчыкаў і студэнтаў Мюнстэрскай акадэміі мастацтваў. 20 кастрычніка ўрачыстае пасяджэнне Вучонай рады завершыцца святочным канцэртам студэнтаў. 24 кастрычніка адкрыецца рэтраспектыўная выстава студэнцкіх прац у Рэспубліканскай мастацкай галерэі, а 26 кастрычніка — выстава прац выкладчыкаў факультэта дызайну ў музеі акадэміі. 27 кастрычніка адбудзецца ў Белдзяржфілармоніі ўрачысты вечар, прысвечаны юбілею. У план святочных мерапрыемстваў уключаны таксама адкрыццё Музея сучаснай скульптуры імя А. Бембеля (30 кастрычніка) і навукова-метадычная канферэнцыя прафесарска-выкладчыцкага складу БелАМ (10 лістапада).

---

*Меркаванне*

# “ЗАПАДНО — РУССКИЕ” ІДУЦЬ!

**Не вельмі даўно, падчас найбольш вострага супрацьстаяння камунізму й нацыянал-дэмакратызму, шмат хто гаварыў пра тое, што, апрача двух вышэйзгаданых ідэалогій, сіл, на палітычнай арэне Беларусі з’явіцца й нейкая іншая, трэцяя сіла, якая зусім сур’ёзна зможа паспрачацца за ўладу.**

Прагнозы спраўдзіліся, і такая ідэалогія з’явілася, стаўшы, прычым, не “трэцяй”, а “першай”. Яна не ўзялася з неадкуль, і яе прыход не быў нечаканы. З канца 18 ст. яна не давала “истинно-русским” спакойна глядзець на нацыянальны рух у Паўночна-Заходнім краі, дажыла да года ўтварэння БССР, потым ненадоўга знікла, і адрадзілася ў закамуфляваным, замаскаваным выглядзе ў тыя часы, калі ў Мінску пайшла пад нож кніга А. Цвікевіча з назовам “Западно-руссизм”.

Так, сёння нашая дзяржаўная ідэалогія — панславізм. Але чый гэты панславізм? Бо ён абавязкова павінен быць чыйсьці. Прайшло ўжо не тры і не пяць стагоддзяў з тых часоў, калі ён быў сапраўды “нічый”, г. зн. ніводзін з народаў, якія патэнцыяльна маглі ўтварыць панусходнеславянскую дзяржаву, не быў настроены непрыкрыта шавіністычна й пагарджальна да сваіх “братоў”, а агульная дзяржава можа ўтварыцца толькі для таго, каб “славянам лепей жылося”, а не для адваявання адзін у аднаго “жыццёвай прасторы”.

Выдатны помнік такой эпохі, такіх настрояў — наскрозь панславісцкае “Слова пра паход Ігаравы”. Тады гэта было прагрэсіўна, гэта быў крок наперад, шчыры заклік да аб’яднання, каб супрацьстаяць знешнім ворагам.

Але часы мяняліся, розныя славянскія народы жылі ў розных дзяржавах, набіралі моцы, стваралі сваю культуру і, калі займалі ў краіне дамінуючае становішча — сваю ідэалогію. У тым ліку і панславісцкую. І чым мацнейшаю была дзяржава, тым большыя былі яе імперскія амбіцыі. Так было пэўны час і ў ВКЛ з вялікалітоўскай ідэяй аб’яднання ўсіх земляў усходніх славян на чале з Княствам, так было і ў Масковіі, якая, набраўшыся моцы, пачала вельмі шырока выкарыстоўваць гэтую ідэю аб’яднання, ды, безумоўна, з Масквою “ў галоўнай ролі”.

Панславізм, як шчырае імкненне зрабіць добра ўсім славянам, ужо не існуе (калі толькі ён сапраўды існаваў у такой форме). Ён даўно ўжо ўяўляе сабою ўсяго толькі прыгожыя (ці не надта) словы, за якімі хаваецца нечае неадольнае жаданне пашырыць сваю тэрыторыю.

А наконт таго, чый жа ў Беларусі панславізм (“беларускі”, “расійскі”, “украінскі”, “сербскі” ці яшчэ які), адказваць няма ніякае патрэбы. Усе і так добра ведаюць.

“Расійскі” панславізм (г. зн. імкненне стварыць агульную дзяржаву на чале з Масквой, альбо аднавіць Расійскую імперыю) існуе ў нас як блізкі й родны некаторым беларусам “западно-руссизм”. У нас ёсць свае “западно-русские” партыі: ЛДП, СС “Белая Русь”; не так яўна з гэтых пазіцый выступаюць камуністы, але тое, што кампартыя ў нас нашмат больш (а можа, й зусім) “западно-русская”, чым беларуская — сумненню не падлягае.

Цяпер панславізм перамагае ў Расіі, пра што яскрава сведчыць заява Савета Федэрацыі аб правядзенні рэферэндуму наконт эканамічнай і палітычнай інтэграцыі з Беларуссю. Але ён (і ідэалы ЛДПР) даўно ўжо перамаглі ў Беларусі. Падчас выбараў прэзідэнта Лукашэнку падтрымліваў СС. Праўда, потым, амаль перад днём выбараў, яны нібыта праз нешта разышліся, але як паказала далейшая гісторыя — ненадоўга. Колькі Саўцаў зараз наблiжана да прэзідэнта — ніхто нават не лічыў. Нядаўна старшыня беларускай філіі жырыноўцаў (ЛДП) у інтэрв’ю “Звяздзе” гаварыў: “Са “Славянскім саборам” мы не сталі ствараць юрыдычна аформленага блока, а пайшлі далей... Партыя

# НАПІСАЛІ — ДЗЕЦІ

Пачатак ёй быў пакладзены ў лютым 1993 года, калі Беларускі фонд "Мы — дзецям" сумесна з іншымі арганізацыямі аб'явіў літаратурны конкурс, прыняць удзел у якім запрашаліся хлопчыкі і дзяўчынкі. Тады ж вызначылі і жанр твораў — казка. Прадстаўнічаму журы на чале з народным паэтам Беларусі Максімам Танкам давялося нялёгка: на разгляд паступіла больш як 1100 казак. Для публікацыі адабралі 58 з іх. Яны і склалі зборнік "Казкі дзяцей Беларусі", што пабачыў свет у выдавецтве "Юнацтва". Выдаткі на сябе ўзяў той жа фонд "Мы — дзецям", а таксама фірма "Пушэ", прамысловая фінансавая група "Сэм". Аказаў садзеянне і Фонд падтрымкі цэркваў у СНД амерыканскага штата Тэхас.

Кніжка атрымалася проста цудоўная. Хораша аформіў яе мастак С. Волкаў, які, дарэчы, даўно афармляе кнігі для дзяцей.

Прэзентацыя кнігі, што прайшла ў тэатры юнага гледача, вылілася ў сапраўднае свята літаратуры і... тэатра. Але, тэатра! Паводле казак, напісаных хлопчыкамі і дзяўчынкамі, было падрыхтавана цікавае сцэнічнае прадстаўленне.

У час гэтага свята было зачытана віншаванне прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А. Лукашэнкі, у якім былі добрыя словы і абяцанні, што дзяржава зробіць усё магчымае для шчаслівага маленства дзятвы. Дай Божа!

*На здымку: аўтары кнігі.*

Фота А.МАЦЮША

# У ТРЫВОЗЕ ЗА МОВУ

6 кастрычніка ў Доме літаратара прайшоў чацвёрты з'езд Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны. У Мінск прыехала каля двухсот дэлегатаў ад больш чым 140 арганізацый і суполак таварыства. Акрамя дэлегатаў, у зале было шмат гасцей, якія прадстаўлялі ў асноўным творчую інтэлігенцыю і настаўніцтва нашай краіны. На жаль, праігнаравалі запрашэнне ўдзельнічаць у з'ездзе Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь, Міністэрства адукацыі і навукі, а таксама, можна сказаць, і тэлебачанне, якое зазняла толькі невялічкі сюжэт пра адкрыццё з'езда і паказала ў "Навінах".

З'езд віталі Старшыня Вярхоўнага Савета Мечыслаў Грыб, намеснік міністра культуры і друку Іван Карэнда.

Аб дзейнасці ТБМ за два гады, якія прайшлі пасля папярэдняга з'езда, зрабіў справаздачу яго старшыня Ніл Гілевіч. Перад прысутнымі выступілі Радзім Гарэцкі, Мікола Статкевіч, Зянон Пазняк, Станіслаў Шушкевіч, Яўген Лугін, Зміцер Санько, Алег Трусаў, Сяргей Запрудскі, Вячаслаў Адамчык, Яўген Цумараў, Вінцук Вячорка і іншыя. У сваіх выступленнях дэлегаты і госці з'езда адзначылі і асудзілі антыдэмакратычныя і антыбеларускія сілы, якія, абапіраючыся на сумніцельны, з пункту гледжання канстытуцыйнасці, рэферэндум, зачыняюць дзверы перад беларускай мовай: дзе толькі могуць.

Нечаканасцю для тэбээмаўцаў была прысутнасць у зале прадстаўніка камуністычнай партыі Валерыя Шчукіна, які, выйшаўшы да трыбуны, ля якой быў бел-чырвона-белы сцяг і плакат "Спыніць русіфікацыю!", выказаў сваю занепакоенасць закрыццём беларускамоўных класаў і школ.

З'езд Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны прыняў шэраг зваротаў і пастаноў. Адбыліся перавыбары Рэспубліканскай рады ТБМ. Старшынёй Таварыства аднагалосна зноў быў абраны народны паэт Беларусі Ніл Гілевіч.

# ДЗЕЛЯ ЎШАНАВАННЯ ПАМЯЦІ М. ТАНКА

Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А.Лукашэнка падпісаў указ "Аб увекавечанні памяці народнага паэта Беларусі, Героя Сацыялістычнай Працы Максіма Танка (Скурко Я. І.)". У ім, у прыватнасці, гаворыцца: устанавіць у 1996 годзе мемарыяльную дошку на доме, у якім жыў М. Танк, і помнік на магіле паэта ў в. Пількаўшчына Мядзельскага раёна: прысвоіць імя Максіма Танка Беларускаму дзяржаўнаму педуніверсітэту, Мінскаму педвучылішчу, Мядзельскай бібліятэцы. Мінскаму гарвыканкаму даручана вырашыць пытанне аб прысваенні імя М. Танка адной з вуліц г. Мінска, а Міністэрству культуры і друку — выдаць у 1996—1998 гадах поўны збор твораў М. Танка на беларускай мове і двухтомнік яго твораў на рускай мове. Для студэнтаў Белдзяржуніверсітэта, Белпедуніверсітэта, Віцебскага дзяржуніверсітэта, Беларускай акадэміі мастацтваў, а таксама навучэнцаў Мінскага педвучылішча будуць устаноўлены стыпендыі імя М.Танка ў памеры трох мінімальных заробкаў. Нацыянальнай дзяржтэлерадыёкампаніі даручана выпусціць у 1995 годзе тэлефільм аб жыцці і творчасці Максіма Танка.

будзе падтрымліваць усенародна выбранага прэзідэнта".

Так што дамінуючыя ідэі сёння ў Беларусі — "западно-русские". Адсюль вынікае: нашая дзяржаўная ідэалогія — антыдзяржаўная.

Ці патрэбны "наш" панславізм? Пытанне зусім не рытарычнае. У нас існуе гэтая ніша, і ніхто з беларускіх палітыкаў і партый яе яшчэ не заняў. Зразумела, што "наш" панславізм (ідэя яднання славян пад дахам Беларусі) — рэч сёння неперспектыўная, бо яе існаванне немагчымае без шырокага беларускага шавіністычнага руху. А шавінізмам хварэюць толькі "моцныя" нацыі, да якіх нас не залічыш (хоць нешта добрае ёсць у нашай "слабасці").

Такія рухі існуюць не толькі, скажам, у Расіі, у Сербіі, а нават на Украіне. І ў гэтым плане нашы праеўрапейску, можна нават сказаць, прагерманску настроеныя нацыяналісты не йдуць ні ў якое параўнанне з "нацыяналістамі" УНА-УНСО.

У пацвярджэнне хачу прывесці колькі цытат з "Усеўкраінскага навукова-публіцыстычнага часопіса "Націоналіст". Што яны пішуць пра імперыю, панславізм і адносіны з Расіяй? Вось што: "У выпадку рэалізацыі лозунга "Гэць ад Масквы!" пахаванаю будзе ідэя Вялікай Сабарнай Украіны... На дзённым парадку — аднаўленне Кіеўскай Русі — Украіны, з межамі ад Адрыятыкі да Ціхага акіяна. Мы абвяшчаем сябе спадкаемцамі імперыі не толькі ў статыцы, але і ў дынаміцы... Імперыі, у якой нарэшце рэалізуецца галоўны лозунг украінскіх нацыяналістаў — сабарнасць як крок да больш вялікае мэты — Украіны як цэнтра ўсяго панславізму... Уважаем, што нашым саюзнікам у гэтых грандыёзных планах будуць усе сапраўды патрыятычныя сілы Расіі, ад данскіх казакоў да "русских" нацыяналістаў".

У Беларусі яшчэ такога няма. Максімум, што перанялі некаторыя нашы ва ўкраінцаў — ідэя саборнасці як адзінства нацыі ў прасторы й часе. З такіх пазіцый у нас выступае Беларуская нацыянальная партыя й яе старшыня А. Астапенка. Ды наконт "беларускага" панславізму яшчэ нідзе не было адкрыта заяўлена, хаця я ведаю, што цяпер пэўныя сілы распрацоўваюць некаторыя тэорыі на гэты конт. Але, думаю, шанцы прыжыцца ў такіх ідэй (і "беларускага", і "расійскага" панславізму, калі толькі апошні й надалей не будзе падтрымлівацца нашым кіраўніцтвам) на Беларусі мізэрныя.

Увогуле, ідэі аб'яднання нацый паводле іх нейкіх агульных прымет зараз у Еўропе не папулярныя: не гаворыцца ні пра пангерманізм, ні пра панэлінізм, і нават такія блізкія й маленькія краіны, як Летува й Латвія, не жадаюць утвараць аніякае "панбалтыцкае" дзяржавы. Калі ж глядзець зусім глыбока ў карані народаў, то з такім жа поспехам можна гаварыць, да прыкладу, пра неабходнасць існавання нейкай агульнай паніндаеўрапейскай фармацыі.

Што ж тычыцца канкрэтна Расіі, то як казаць пра мажлівасць славянскай імперыі, калі ў Расіі, на сваёй спрадвечнай тэрыторыі, жывуць сотні іншых не славянскіх народаў, і колькасць гэтых "инородцев" вымяраецца мільёнамі?

А пакуль на расійскай амбасадзе ў Мінску вісіць шыльда, выкананая ў змешаным беларуска-ўкраінскім варыянце — сярод дзён тыдня там значацца "чаць(!)вер ды "п'ятніца". Жыве граматны панславізм?!

**Аляксей ШЭЙН**

Ніл ГІЛЕВІЧ

# НЕ ЎПАДАЦЬ У РОСПАЧ І НЕ СКЛАДАЦЬ РУКІ Ў БЯЗДЗЕЙНАСЦІ!

## УСТУПНАЕ СЛОВА НА АДКРЫЦЦІ IV З'ЕЗДА ТБМ ІМЯ ФРАНЦІШКА СКАРЫНЫ

Шаноўныя дэлегаты і госці з'езда!

На свой чарговы рэспубліканскі форум мы сабраліся для таго, каб прааналізаваць дзейнасць ТБМ за перыяд пасля III з'езда і вызначыць галоўныя праблемы і задачы, якія стаяць перад Таварыствам сёння і будуць актуальнымі, востранадзённымі заўтра, у той грамадска-палітычнай сітуацыі, што ўжо склалася і, па ўсім відаць, будзе мець сваё развіццё далей. Сітуацыі, падкрэслім гэта адразу, неспрыяльнай для лёсу беларускай мовы і культуры, — сітуацыі, у якой гатова запанаваць атмасфера беларусафобіі, непрыязі і адкрытай варожасці да беларускай мовы, да нацыянальнага адраджэння Беларусі, да статуса суверэннасці і незалежнасці нашай дзяржавы — Рэспублікі Беларусь.

Два з палавінай гады назад, напярэдадні III з'зда ТБМ, палітычная сітуацыя ў краіне была іншая. Здавалася, усё было ў асноўным падпарадкавана адной вялікай мэце — будаўніцтву сваёй свабоднай незалежнай дзяржавы, усё было нацэлена на адну задачу — зрабіць Беларусь у поўным сэнсе слова Беларуссю, вярнуць ёй сваё ўласнае нацыянальнае аблічча, страчанае ёю за дзесяцігоддзі бальшавіцкага таталітарызму. Здавалася, у нашым грамадстве, пры ўсіх непазбежных агаворках наконт цяжкасцяў пераходнага перыяду, трохупатроху набірае сілу і перамагае патрыятычнае волевыяўленне народа, расце і дужэе тое здаровае, сумленнае, разумнае, што ў яго душы было яшчэ не забіта, яшчэ жыло і цеплілася. Так здавалася — хаця дастатковых падстаў не было. Вядома, сёе-тое было ўжо зроблена на шляху станаўлення беларускай дзяржавы, ажыццяўлення праграмы нацыянальнага адраджэння Беларусі. Пэўныя зрухі ў гэтым накірунку былі, у прыватнасці — у справе выканання Закона аб мовах, паводле якога беларуская мова набыла ў Беларусі статус дзяржаўнай. Натуральна, беларусы-патрыёты радаваліся гэтым першым заваёвам. Радаваліся — і, на вялікі жаль, недаацанілі магчымасці сіл антыпатрыятычных, якія зусім не думалі змірыцца з такім развіццём падзей, з курсам на беларусізацыю Беларусі, на ўмацаванне яе становішча як незалежнай дзяржавы. Гэта зусім не адпавядала іх інтарэсам. Праз нейкі час пасля кашмарнай для іх другой паловы 1991 года яны апомніліся, спахапіліся, зразумелі, што яшчэ не ўсё страчана, дакладней — амаль нічога не страчана, пачалі гуртавацца і актыўна процідзейнічаць нацыянальна-адраджэнскаму беларускаму руху. Гэтая іх актыўнасць стала асабліва адчувальнай і відочнай пасля таго, як беларускі парламент большасцю сваёй фактычна пайшоў у іх на павадку. Адчуўшы смак першага поспеху, ворагі беларушчыны нахабна паднялі галаву і з вялікай апантанасцю павялі сваю злачынную антыбеларускую і антыдзяржаўную работу. З набліжэннем прыняцця новай Канстытуцыі яны настойліва загаварылі аб неабходнасці надаць рускай мове ў Беларусі статус дзяржаўнай. Правесці гэтую авантуру праз Вярхоўны Савет ім не ўдалося — статус дзяржаўнай Канстытуцыя замацавала толькі за адной мовай — за мовай асноўнага карэннага насельніцтва Беларусі, што было ў найвышэйшай меры справядліва. Як вы помніце, рускай мове была адведзена роля мовы міжнацыянальных зносін — роля настолькі значная, што куды ўжо больш і патрабаваць чагосьці! Сумленныя беларусы, патрыёты роднага слова спадзяваліся, што такі запіс у Асноўным Законе дзяржавы супакоіць усіх тых, хто надта ж баяўся за становішча і лёс рускай мовы ў Беларусі, за тое, хаця ж бы мы па неразумнасці сваёй не перасталі вывучаць яе і не адарваліся ад вялікай рускай літаратуры, культуры, навукі.

Было б вялікай памылкай думаць, **што** ўсе тыя грамадзяне, якія сцяной стаялі і стаяць за дзяржаўнае двухмоўе, не разумеюць, што гэта значыць для лёсу беларускай мовы ў Беларусі. Гэта не зусім так. Вядома, ёсць сярод іх такія, што па цёмнасці сваёй нічога страшнага ў гэтым для нашай мовы і наогул для лёсу нашае нацыі не бачаць. Але не яны вядуць "першую скрыпку", не яны галоўныя ініцыятары і ідэолагі ўсёй гэтай непрыгляднай чыннасці. Яны ўсяго толькі ідуць за тымі, хто выдатна разумее і ведае: калі не падрэзаць пад корань беларускую мову — то не ўдасца спыніць працэс нацыянальнага беларускага адраджэння і падарваць справу будаўніцтва незалежнай беларускай дзяржавы. Інакш кажучы, не ўдасца паставіць на суверэннай Беларусі крыж. Не ўдасца зрабіць нашу краіну "губерняй" ці "паўночна-заходнім" краем Расіі. А менавіта гэта было і ёсць альфай і амегай самых запаветных мар і памкненняў усіх вялікадзяржаўных шавіністаў, усіх адэптаў праімперскай ідэалогіі. Тое, што так цяжка давесці да розуму і сэрца мільёнаў беларусаў, — ворагам беларушчыны даводзіць не трэба, ім гэта ясна, як божы дзень. А іменна: будзе жыць і займаць пануючае становішча беларуская мова — будзе жыць і панаваць на сваёй зямлі беларускі народ, а значыць — будзе існаваць незалежная дзяржава Беларусь. Адамрэ, перастане гучаць мова — адамрэ, сыдзе з гістарычнай арэны ў небыццё і народ, перастане існаваць беларуская нацыя. Таму ні ў якім разе нельга верыць, што нашы заядлыя барацьбіты за дзве дзяржаўныя мовы нібыта клапоцяцца аб тым і толькі аб тым, каб хаця не была пакрыўджана ў нас руская мова, хаця б мы тут ад яе не адцураліся, хаця б не аслабла наша валоданне ёю. Ды не баяцца яны за гэта, не баяцца, бо не лічаць нас такімі дзікунамі, якія не хочуць ведаць мову вялікага рускага народа. Не, не пра гэта клапоцяцца "нашы дабрадзеі", не пра гэта! Руская мова будзе жыць — ніякага страху за яе лёс у іх няма. А пра што ж яны клапоцяцца? А пра тое, каб перастала жыць наша мова беларуская! Пра тое, каб пад лозунгам раўнапраўя, аднолькавага статуса дзвюх моў яна ператварылася спачатку ў агідную трасянку, а пасля — паколькі цывілізаваная нацыя трасянку ў якасці дзяржаўнай мовы цярпець не будзе — каб і зусім выпала з грамадскага ўжытку за непатрэбнасцю, каб паціху, непрыкметна датлела і згасла недзе па глухіх закутачках, па апошніх астраўках і выспачках.

Трэба сказаць, што гэты запаветны клопат вялікадзяржаўных шавіністаў ніколі за 75 гадоў савецкай эпохі адкрыта не афішыраваўся. У часы "правадыра ўсіх народаў і карыфея ўсіх навук" увогуле было дазволена гаварыць толькі пра небывалы росквіт нацыянальных моў і культур. У часы Хрушчова, Брэжнева і яго наступнікаў нас палымяна пераконвалі, што гэты небывалы росквіт няўхільна вядзе да поўнага зліцця ўсіх моў і культур у адным інтэрнацыянальным катле. Менавіта ў гэты перыяд і былі ліквідаваны апошнія беларускія школы ва ўсіх гарадах і мястэчках Беларусі. Пасля, на мяжы 80-х і 90-х, нам была вернута надзея на адраджэнне, і мы ўхапіліся за яе кволы і крохкі праменьчык. І, як ужо было сказана, — паспелі сёе-тое зрабіць. Але галоўнага не зрабілі. Не дабіліся таго, каб урад Беларусі стаў сапраўды беларускім урадам, а Вярхоўны Савет Беларусі стаў сапраўды беларускім Вярхоўным Саветам. Каб усюды і скрозь у Беларусі адчувалася, што гэта сапраўды беларуская дзяржава.

Год з гакам назад у жыцці народа і краіны здарылася нешта не проста нечаканае, але і неверагоднае. На пасаду прэзідэнта, а г.зн. кіраўніка дзяржавы, прыйшоў чалавек, які, у адрозненне ад усіх сваіх папярэднікаў-генсекаў, адразу ж і адкрыта, прылюдна, на ўсю Беларусь мову свайго народа падаў такой, нібыта яна і параўнацца не можа з іншымі, — і зрабіў гэта з непрыхаванай пагардай і непрыязнасцю да нашай найвялікшай нацыянальнай святыні. Хацеў бы тут напомніць агульнавядомае: у жыцці ёсць рэчы, наконт якіх любы дзяржаўны ці грамадскі дзеяч публічна можа гаварыць або толькі станоўча або не гаварыць зусім. Напрыклад, пра свабоду і незалежнасць сваёй краіны. Гэтаксама, напрыклад, — і пра мову свайго народа. Хоць адзін раз сказаць пра такія рэчы непаважліва, хоць адзін раз засведчыць, што ты іх не шануеш і не цэніш — значыць, тут жа, імгненна і беспаваротна пацярпець маральнае і палітычнае банкруцтва ў вачах усяго цывілізаванага свету. Можна зразумець любыя іншыя вялікія заганы ў жыццядзейнасці дзяржаўнага мужа, — але толькі не **гэта. Гэта** — ні зразумець, ні апраўдаць немагчыма. Падобна, што чалавек, які заняў пасаду прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, і да гэтага часу не зразумеў, **што** тады, год з гакам назад, здарылася — які палітычны крах, якая маральная катастрофа. Бо калі б зразумеў — ужо даўно горка раскаяўся б і папрасіў бы ў народа прабачэння. На вялікі жаль, ён не толькі не пакаяўся, не прайшоў праз выратоўчы катарсіс, а наадварот — апантана падаўся гіблай пуцінай далей. Ён з'ініцыяваў сумнавядомы рэферэндум, які, адзін Бог ведае якімі праўдамі і няпраўдамі, падтрымаў яго прапанову аб наданні рускай мове ў Беларусі статуса дзяржаўнай.

*(Працяг на стар. 4)*

***"Круты паварот ва ўсёй палітыцы", які прывёў да маштабных сацыяльных зрухаў і ўзрушэнняў ва ўсіх рэспубліках былога Саюза, Сталін і яго акружэнне рыхтавалі з сярэдзіны 20-х гадоў. У Беларусі аб небяспеках "рэстаўратарскіх уплываў" ва ўмовах "разгорнутага НЭПа" першы сакратар ЦК КП(б)Б А.Крыніцкі адкрыта заявіў у верасні 1925 г., выступаючы з дакладам "Асаблівасці ўнутрыпартыйнага становішча КП(б)Б" на сходзе членаў бюро ячэек Мінскай гарадской партыйнай арганізацыі.***

***На сярэдзіну 20-х гадоў прыпадае і пашырэнне маштабаў палітычнага кантролю за духоўнай сферай і рознымі праявамі грамадскага жыцця. Сродкам такога кантролю з'яўлялася Галоўнае ўпраўленне па справах літаратуры і выдавецтва (Галоўліт), створанае згодна з пастановай СНК БССР у студзені 1923 г. Яно павінна было забараняць выданне твораў, у якіх, па меркаванні парторганаў, мелі месца выказванні, накіраваныя супраць савецкага дзяржаўнага ладу і да т.п. У Беларусі Галоўліт быў структурным падраздзяленнем Наркамасветы, а ў палітычным плане падпарадкоўваўся аддзелу друку ЦК КП(б)Б.***

***Ніжэй друкуецца шэраг распараджэнняў Галоўліта за 1926 год. З іх яскрава бачна, што нарастанне палітычнага кантролю і ўціску паступова распаўсюджвалася на ўсё грамадскае жыццё, як яго духоўна-культурную, так і эканамічную сферы. Дакументы падаюцца з захаваннем моўных асаблівасцей таго часу.***

**Р.ПЛАТОНАЎ, галоўны навуковы супрацоўнік БелНДЦ дакументазнаўства, археаграфіі і архіўнай справы**

# "ДРУКАВАННЮ НЕ ПАДЛЯГАЕ"

N 10 С *Сэкрэтна*
5 студзеня 1926 г. Абежнік

**Усім Акрлітам**

Галоўрэпертком БССР паведамляе для ведаў, што п'еса Юр'іна "Себя казнивший" (бывш. "Конь вороной") дазволена дзеля пастаноўкі выключна ў гэткай рэдакцыі, якая прынята ў Ленінградзе. У ёй вытручаны, па магчымасці, усе жыццяпісаныя збежнасці героя п'есы. з Савінкавым — гэтак, каб Андрэй Паліванаў застаўся ў прадстаўленні гледзяча (зрителя) як абагульнены тып рэвалюцыйнага інтэлігента, не ведаўшага Рэвалюцыі, калі яна прыйшла. П'еса партрэтна, і разаблачаць гэты момант у рэцэнзіях і папярэдне рэкламах строга забараняецца. У гэтай рэдакцыі "Себя казнивший" можа быць дазволена дзеля ўсялякай аўдыторыі.

Старшыня ІРК (Арэшнікаў)
Інструктар відовішча (Ярош)
Сакратар (В.Суднік)

N 27/с *Зус.сакрэтна — Абежнік*
28 чэрвеня 1926 г.
г.Менск

**Усім Акрлітам і Палітрэдактарам**

Твор Пільняка "Повесть непогашенной луны", у якім ідзе размова аб смерці (пры аперацыі) камандарма Гаўрылава, друкаванню не падлягае ні ў якім выпадку.

У разе, калі гэтая повесць паступіць да Вас для прагляду пад паказанай вышэй назвай ці якой-небудзь іншай, цалкам ці ў адрыўках, Галоўлітбел просіць тэрмінова паведаміць яго аб гэтым, а рукапіс да друкавання забараніць і пераслаць яе сакрэтна ў Галоўліт.

Загадчык Галоўліта Арэшнікаў
Сакратар Суднік В.

Н.Чарнушэвіч. "Жыццёвыя ўсмешкі". Вершы.

[У архіўнай папцы з матэрыяламі аддзела друку ЦК КП(б)Б і абежнікамі Галоўліта падшыта 8 вершаў паэта з паметкамі і заўвагамі палітычных рэцэнзентаў. У якасці прыкладу прыводзіцца верш "А калі, калі ты прыдзеш..." з падкрэсліваннямі, да якіх прыцягвалася ўвага супрацоўнікаў аддзела]

Стар. 26—27.

**А калі, калі ты прыдзеш.**
**мой далёкі Заўтрага дружа...**
**Я таплюся, капаю ў крыўдзе**
**на крыжы распінаю душу.**
**А навокал — цвіце бездар'е,**
**а навокал -- нявольнікаў радасць...**
***Не, не госць я на гэтым балі,***
***хай адзін лепш буду жабрачыць.***
**Хай адзін загіну у хвалях**
**густалісця лясоў Беларусі —**
**Не дазволю тупой навале**
**мае сэрца схаваць пад абрусам.**
**Ці аб гэтым гадаў і марыў**
**на бязмежжы нядаўняга ўчора...**
***Ой, як мала паветра, мала —***
***Нешта рук ня слухае човен.***
**Мо не здамся, мо вынесу буру...**
**ды не ў гэтым, нарэшце, і справа —**
**Ты ідзеш, і з табою разбурым**
**А НЯДОЛІ ГОРКАЕ СЛАВУ.**

[Надпіс на палях: аб чым пяе...]

Стар. 141

**Тваю сцежку не кожны пазнае,**
**не растуць па ёй вохкія ружы...**
**Табе весніцы я адчыняю,**
**МОЙ ДАЛЁКІ ЗАЎТРАГА ДРУЖА.**

*С/секретно*

циркулярно

**Всем Окрлитам и Политредакторам**

Главлит предлагает без согласования с органами ОГПУ не допускать опубликования в прессе сведений, заранее точно указывающих время и место выступлений, как в Москве, так и вне, с докладами, лекциями и т.п. ответственных Членов Советского правительства и Политбюро ЦК РКП(б).

24 апреля 26 г. Зав.Главлитбелом Орешников
N 186с Секретарь Судник В.

N 246с *Сов.секретно*
9 июня 1926 г.
г.Минск

**Всем Окрлитам**

Из ознакомления с состоянием инвентаря некоторых книгохранилищ БССР выяснилось, что абоненты на полях книг вождей Октябрьской революции делают подчас карандашом или чернилами заметки недопустимого свойства.

На полях собр.сочинений Ленина — ругательства по адресу Владимира Ильича, подчас витиеватые меньшевистского толка редакции строк на 30 и т.д. С этим явлением нужно покончить в корне.

Главлитбел предлагает Вам в срочном порядке вызвать к себе зав. библиотеками, действующими во вверенном Вам округе, отобрать от них обязательство в том, что по возвращении книги от абонента, если таковая принадлежит перу тт.Ленина, Зиновьева, Сталина, Маркса, Энгельса, Бухарина, Троцкого, Калинина и т.д., просмотреть ее по страницам. В случае обнаружения каких-либо пометок, взыскать с абонента стоимость книги, книгу препроводить в Окрлит, а Окрлиту направить ее в ПК. Конечно, о ПК упоминать библиотекарю ни в коем случае нельзя.

Время от времени (не чаще 2-х раз в месяц) завокрлит проверяет библиотекаря путем беглого просмотра упомянутых книг.

Зав.Главлитбел П.Орешников
Секретарь Судник В.

**В секретариат ЦК КП(б)Б**

Отдел печати обращает Ваше внимание на участившиеся в органе ЦК КП(б)Б "Звезда" технические ошибки и опечатки, могущие быть подхваченными контрреволюционными элементами.

В номерах под клише Ворошилова — надпись "Не до жиру, быть бы живу", под клише английского рабочего с протянутой рукой о помощи — надпись "Сами себя бьют". Был случай, когда под клише Сталина надпись — "Лакеи Антанты".

Эти невинные ошибки по очевидной вине выпускающего вызвали не только кривотолки среди читательской массы "Звезды", но и могут быть подхвачены белой прессой как "пикантные советские анекдоты".

Зав.отделом печати ЦК

N 272/с
29 чэрвеня 1926 г. *Зус.сакрэтна*
г.Менск Абежнік

**Усім Акрлітам**

Некалькі дзён таму назад ініцыятыўная група, у склад якой уваходзяць гр-не Сасенскі, Фрыд, Шапіра, Каган, Бернштэйн і Кацаў, звярнулася ў Галоўлітбел з просьбай даць дазвол на наладжанне "Вечара новае яўрэйскае літаратуры і музыкі на стара-яўрэйскай мове". З прычыны таго, што па маючымся ў нас вестках гэтая група ідэалагічна звязана з сіянізмам, які за апошні час набыў відочны антысавецкі характар, Галоўлітбел, па ўзгодненасці пытання з адпаведнымі органамі, — у арганізацыі вечара адмовіў.

Паведамляючы аб гэтым, Галоўлітбел прапануе Вам у разе, калі прадстаўнікі памянёнае групы звернуцца да Вас з просьбай аб выдаче дазволу на падобны вечар, — дазволу ні ў якім выпадку не даваць.

Заг.Галоўлітбелу (Арэшнікаў)
Сакратар (Суднік В.)

N 227/с *Сакрэтна-абежнік*
25 траўня 1926 г.
г.Менск

**Усім Акрлітам і Палітрэдактарам**

За астатні час ў перыядычным друку і часопісах з'явіўся цэлы шэраг артыкулаў і заметак аб дзейнасці Салавецкіх канцлагераў АДПУ і аб жыцці вязняў у іх, пры чым матарыялы аб гэтым пастаўляюць з розных бакоў.

Галоўлітбел прапануе не дапушчаць без дазволу Спэцаддзела АДПУ памяшчэння ў прэсе памянёных артыкулаў, заметак і інш.

Нам.заг.Галоўлітбела (Гурскі)
Сакратар (Суднік В.)

N 130с *Зус.сакрэтна*
15 сакавіка 1926 г.
г.Менск

**Усім Арклітам і Палітрэдактарам**

У развіццё і паясненне параграфа 26 Вайсковага Пераліку, Галоўлітбел напамінае Вам, што ўсе друкаваныя матарыялы (допісы, інтэрв'ю, заметкі і г.д.), у каторых у той ці іншай ступені прама ці косвенна фігурыруюць органы ДПУ, а таксама да іншыя весткі, падлягаючыя візіраванню ДПУ, ні ў якім разе не павінна апублікавацца без узгаднення з месным органамі Аддзела інфармацыі і Паліткантролю ДПУ.

У тых выпадках, калі ДПУ будзе распалагаць матарыямі, маючымі дзеля дзяржавы асабліва важнае значэнне, якія могуць быць апублікаваны — астатнія будуць непасрэдна і выключна перадаваць ТАСС (Тэлеграф. Агенцтва Савецк. Саюза).

Нам.заг.Галоўлітбела (Гурскі)
Сакратар (Суднік)

N 31/С
2-га лістапада 1926 г. *Зус.сакрэтна — абежнік*
г.Менск

**Усім заг. Акрлітаў і Палітрэдактарам газэт**

За апошні час у прэсе сталі сустракацца паведамленні аб бандыцкіх наскоках.

Галоўлітбел катэгарычна прапануе ні ў якім разе не змяшчаць падобных вестак, які б яны характар не насілі, крымінальны ці палітычны, без адпаведнага ўзгаднення з мясцовымі органамі ДПУ, а ў Менску непасрэдна з Галоўлітам.

Загадчык Галоўлітбелу (Арэшнікаў)
Інспектар па справах друку (Гурскі)
Сакратар (Суднік)

N 4479/С Минск *Строго секретно*
ЦК КП(б)Белоруссии Срочно

**Всем ЦК нацкомпартий, крайкомов и облбюро ЦК ВКП(б)**

При освещении в печати Белоруссии урожая необходимо руководствоваться следующим.

Не подлежат опубликованию:

а) перспективы хлебо-фуражного баланса (в цифровых данных);

б) данные о предполагаемом валовом сборе хлебов по отдельным краям и районам;

в) перспективы хлебоэкспорта (в цифрах).

При оценке урожая в печати необходимо придерживаться только бальной системы.

В соответствии с этим различные сведения о состоянии посевов и ходе реализации урожая можно помещать в печати лишь в указанных выше пределах.

Срочно дайте соответствующие указания местным органам печати.

Секретарь ЦК ВКП(б) (В.Молотов)
Зав.отделом печати ЦК (С.Гусев)

Вх. N 260сс
19.VII.26 г.
N 62-с *Зус.сакрэтна*
4 снежня 1926 г.
г.Менск

**Усім Акрлітам і Палітрэдактарам**

Галоўлітбел прапануе Вам ні ў якім выпадку не дапушчаць у друку дыскусіі па пытанню аб дэвальвацыі чырвонца, а таксама не дазваляць друкаваць артыкулаў, заметак і інш., гаворачых у той ці іншай форме аб магчымасці ці пажаданні дэвальвацыі чырвонца.

Загадчык Галоўлітбела (Арэшнікаў)
Нам.сакратара (Сікорская)

## РЫХТУЕЦЦА КАНФЕРЭНЦЫЯ

Беларускі навукова-даследчы цэнтр дакументазнаўства, археаграфіі і архіўнай справы і гістарычны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта плануюць правесці 15 лютага 1996 года навуковую канферэнцыю "М. Улашчык і праблемы беларускай гістарыяграфіі, крыніцазнаўства і археаграфіі (да 90-ых угодкаў вучонага)".

У аргкамітэт увайшлі М. Біч, Н. Гілевіч, А. Каўка, Г. Кісялёў, А. Ліс. У. Міхнюк (сустаршыня), Г. Сагановіч, В. Селяменеў, Г. Сурмач, В. Чамярыцкі (сустаршыня). П. Шуляк (сустаршыня), у рабочую групу — С. Жумар, А. Каханоўскі, П. Лойка, У. Ракашэвіч, В. Скалабан (кіраўнік).

На канферэнцыі будуць разгледжаны наступныя пытанні: "М. Улашчык — гісторык Беларусі. Яго жыццё, навуковая і грамадская дзейнасць", "Спадчына М. Улашчыка і праблемы беларускай гістарыяграфіі і крыніцазнаўстаа", "М. Улашчык — археограф. Стан і перспектывы беларускай археаграфіі", "Уклад М. Улашчыка ў гістарычнае краязнаўства Беларусі".

Заяўкі на ўдзел у канферэнцыі з указаннем тэм дакладаў і паведамленняў прымаюцца да 15 снежня 1995 года па адрасе: 220030, Мінск, вул. Кірава, 43, БелНДЦДААС.

Запрашэнні высылаюцца ў пачатку студзеня 1996 г.

Даклады і паведамленні, заслуханыя на канферэнцыі, будуць выдадзены асобным зборнікам.

Даведкі па тэлефонах: 29-32-85, 27-30-14, 26-01-75.

**— Алесь Сцяпанавіч, такія мініяцюрныя формы, як пункціры, што складаюць цэлы раздзел у новым зборніку "Паляванне ў райскай даліне", чым прываблівакоць вас як паэта? У чым іх хараство, іх асалода для творцы?**

— Пункціры — гэта назіранне, думка, вобраз — тое, што заўважылася вакол сябе ў рэчаіснасці. Што пастукалася ў тваю душу, у свядомасць, што блізка падступілася. І трэба, каб зрок убачыў, а слых пачуў нешта істотнае, каб быў гатовы гэта ўспрыняць. Калі прыйдзе такое назіранне — тады яно можа стаць пункцірам.

Пункцір — гэта 3, 4, 5, ну 6 радкоў ад сілы. Але ён, канечне, валодае ўнутранай цэласнасцю і, мне думаецца, што маленечкі па аб'ёме пункцір па сутнасці сваёй нават большы, чым паэма або верш. Я недзе казаў пра гэта ці нават пісаў у зномах, што, калі верш — гэта як колас, як рунь, сцябліна, то пункцір — гэта зернейка. І калі паэма — цэлы колас, то ўсё ж такі адно зернейка — яно больш блізкае, або сугучнае, або больш адпаведнае коласу, чым сама саломінка, сама сцябліна. І таму, мне думаецца, што нейкім чынам пункціры нагадваюць мікрапаэмы.

**— І, можа быць, пункціры, складваючы гэту паэтычную аўтарскую мазаіку, аздабляюць яе пэўнымі іскрынкамі думак, настрою і ствараюць ледзь прыкметныя вехі творчай дарогі мастака?**

— Безумоўна. Безумоўна, якраз гэтыя пункціры і заўважаюцца на дарозе. Седзячы дома, іх не напішаш. Трэба быць у дарозе, каб заўважыць тое, што адбываецца на дарозе.

**— Гэта ёсць дыханне жыцця рэальнага?**

— Так, рэальнага, таму што кожны чалавек непазбежна сустракаецца вось з гэтай матэрыяй. І яна яму блізкая, можа, як ніякая іншая.

**— Я, зрэшты, хачу сказаць, што пункціры хораша прачытваюцца з вершаказамі. Чытач можа згадаць зараз папярэдні ваш зборнік...**

— Маецца на ўвазе "У горадзе валадарыць Рагвалод"?

**— Так, гэту кнігу склалі менавіта вершаказы і пункціры. І форма вершаказа на той час была прынята як адкрыццё, таму што ў беларускай паэзіі такога жанру раней не сустракалася. У зборнік "Паляванне ў райскай даліне" вы таксама ўключылі цэлы раздзел вершаказаў. Здавалася б: гэта форма вамі ўжо адпрацавана, ужо спазнаны вамі яе гук, музыка, мелодыка — і гэтае адчуванне, як вы любіце казаць, рэчаіснасці, бо ў вершаказах таксама побытавая аснова, у вершаказ уплятаюцца абсалютна рэальныя нейкія рэчы — ці стан прыроды, ці адчуванне чалавека. То сёння на дарозе вершаказа што вам яшчэ сустракаецца?**

— На гэтай дарозе сустракаюцца самі вершаказы. Таму што, я думаю, з вершаказамі не так усё проста: напісаў некалькі, паказаў, што яны ёсць, і досыць. Тут прадбачыцца цэлы пласт, цэлая з'ява. Па сутнасці, вершаказы — своеасаблівы эпас, мазаіка эпасу. Эпасу трохі незвычайнага, які спалучаны якраз з побытам, у першую чаргу з сялянскім, з усім нашым наваколлем. У гэтым наваколлі ёсць шмат з'яў, прадметаў. І кожны прадмет, кожная з'ява, якая мае сваю назву, сваё слова, сваё паняцце — яны па сутнасці хочуць агучыцца, яны хочуць расказаць пра сябе. Я ім даю магчымасць — яны расказваюць пра сябе. А мне застаецца толькі быць вельмі пільным і не сапсаваць гэтага расказу, гэтага апавядання. Можна сказаць, што ў вершаказах я вынайшаў нейкі свой спосаб рыфмоўкі, такую рыфму, якую я сам называю дамінантнай. Дамінантная рыфма — гэта тое імя, тая назва, якія маюць рэч, прадмет, з'ява. І ўвесь вершаказ падпарадкоўваецца, слухаецца гэтага ключавога слова. Ці гэта збан, ці грыб, ці павуціна, ці гузік, ці дуга, ці дзіда і г. д.

У слове заўсёды прысутнічае таямніца. У ім закадзіравана нешта вельмі істотнае, цэлы пласт рэчаіснасці. Вершаказы па меры магчымасці расшыфроўваюць гэты код, дазваляюць слову, каб яно расказала, з кім яно сябруе, як яно адчувае іншыя словы. І, дарэчы, не толькі ў межах адной мовы, беларускай. Часам вершаказы выходзяць на такія памежжы, дзе пачынаюць адгукацца блізкія словы з іншых моў. Але хоць словы і вельмі блізкія па гучанні, а па сэнсе і зусім як бы тыя самыя, тым не менш, у кожнага слова ў сваёй мове ёсць свая розніца. І паколькі гэтае слова ў сваёй мове — гэта розніца адчуваецца і назапашваецца.

**— А ўзаемадзеянне атрымліваецца?**

— Безумоўна, атрымліваецца. Таму што гэта пэўным чынам як родзічы, як сваякі, якія апынуліся ў розных краях, ужыліся ў свае абставіны, краявіды, у сваё наваколле, але, аднак жа, яны адзін аднаго пазнаюць здалёк.

**— Алесь Сцяпанавіч, калі вершаказ мае такую унікальную здольнасць вырастаць з побытавага, а Уолт Уітмен сцвярджаў (як вы згадвалі на пачатку гаворкі), што нават меню снедання паэта абавязкова адаб'ецца на яго вершы, а Ганна Ахматава ў свой час пісала: "Когда б вы знали, из какого сора растут стихи, не ведая стыда", то як сутыкаюцца, на вашу думку, высокае і паўсядзённае ў мажлівасцях паэзіі, мастацкага слова?**

— У старажытнага мудраца Гермеса Трысмігіста ў яго "Смарагдавай скрыжалі" ёсць такое азначэнне: "Тое, што ўнізе, падобна таму, што ўверсе. А тое, што ўверсе, падобна таму, што ўнізе". Урэшце, рэчаіснасць адзіная. І няма рэзкага размежавання паміж тым, што ўверсе і што ўнізе. І як толькі хтонебудзь хоча, каб гэта мяжа рэзка ўсталявалася — тут адбываецца вялікая трагедыя. Адбываецца вялікае неразуменне. І трэба тады космасу, прыродзе прыкладваць свае намаганні, каб зноў усталявалася тая ўнутраная раўнавага, дынамічная раўнавага, якая заўсёды існуе паміж высокім і нізкім. І якраз у побытавым (а побытавае, дарэчы, я не зводжу да нізкага, якраз у побытавым сустракаецца высокае і нізкае). Там і цэласныя натуры, і цвітуць душы, і людзі даюць імёны рэчам. Згадайце, усе ўспаміны з маленства звязаны якраз з побытавым.

Але таму, што гэтае побытавае асветлена такім непаўторным каляровым святлом — яно становіцца...

**— Самым высокім.**

— Яно становіцца быційным. У сваёй творчасці я таксама напачатку, як на маю думку, зрабіў моцны рывок з побытавага. Ну, скажам, у рамантычнае. Але, калі набылася адлегласць, дзякуючы гэтаму самаму рыўку, то і побытавае перааргніазавалася, стала ўспрымацца па-іншаму. Ёсць у мяне паэмы, якія называюцца "Паэма рыбіны", "Паэмы сланечніка", "Паэма палявання" — яны створаны на побытавай матэрыі, на матэрыі лёсу, таму што і лёс адбываецца якраз у звычайнай рэчаіснасці, у побыце. Ёсць і вершаказы, пра якія мы ўжо з вамі гаварылі, і з іх творыцца нешта, што прысутнічае толькі ў побыце. Але галоўнае, што ў гэтым самым побытавым адбываецца і дзейсніцца чалавек. Ён нідзе не можа адбыцца: ні ў самым высокім, ні ў самым нізкім — ён адбываецца якраз у побытавым.

**— Алесь Сцяпанавіч, а чаму вы звярнуліся як перакладчык да паэзіі Хлебнікава? Што роднаснае, сугучнае вам, знайшлося ў яго паэтыцы? Чаму захацелася адчуць той гук і перавесці хлебнікаўскую мелодыю ў беларускае слова?**

— Я думаю, тут трэба ўдакладніць. Можа, гэта не зусім пераклады. Бо ёсць жа ў перакладчыцкай практыцы такія формы, якія называюцца наследаванні, перастварэнні або нават "з". Я пазначыў публікацыі з Хлебнікава словам "з". Лічыце, што "з" — таксама своеасаблівы жанр. Што да Хлебнікава, то, ведаеце, ён такі паэт, якога нават перакладаць немагчыма. Ён становіцца проста прапановай для сутворчасці. Кажуць пра перакладчыка прозы, што ён раб, пра перакладчыка паэзіі — што ён заўсёды спаборнік з аўтарам. То якраз Хлебнікаў дае такую магчымасць вельмі-вельмі паспаборнічаць з ім. І, карыстаючыся зноў жа яго вершам, яго модулем, у сваёй мове стварыць нешта адэкватнае, актывізаваць яе паводле тых прынцыпаў, законаў, якія прапануе верш Хлебнікава.

**— Алесь Сцяпанавіч, мне хочацца зараз перайсці да апошняга раздзела кнігі "Паляванне ў райскай даліне". Ён пазначаны вамі як "Зномы".**

— Мы і пачалі нашу гаворку, здаецца, з гэтага раздзела?

**— Так, бо мне падалося, што тэму нашай сённяшняй размовы можа акрэсліць той зном, якім заканчваецца ваш зборнік (я згадвала яго напачатку). Новы аўтарскі жанр, што дае афарыстычнае тлумачэнне той ці іншай мастацкай з'яве, нават самому працэсу творчасці, — калі пастукаўся ў вашы, так бы мовіць, паэтычныя дзверы? Гэта пэўная рэакцыя на сённяшняе літаратурнае жыццё альбо інтуітыўнае прачытанне твора мастацтва паэтам-крытыкам?**

— Калі ў дачыненні да іншых жанраў можна казаць, што гэта паэзія філасофская, дык у дачыненні да зномаў, відаць, у першую чаргу выпадае сказаць, што ўсё ж такі гэта філасофія, але філасофія паэтычная. Тут жыве і вобраз, жыве і інтанацыя, жыве і гук. Зномы напачатку не мелі гэтакай назвы, ішлі як нататкі, нават як філасафемы. Зномы з'явіліся ўжо ў апошні час, калі рыхтавалася кніжка. З'явіўся адзін такі зном-назіранне, дзе я і гавару якраз пра такую з'яву, як зно. Зно — як мысліцельная рэчаіснасць. Дарэчы, потым у газеце "Культура" такі сшытак з'явіўся літаратурнафіласофскі, і слова зно туды перавандравала. Дык калі я толькі пачаў аб'яўляць зномы (а гэта канец 70-ых гадоў), то мне казалі, ну навошта сціскаць літаральна ў адзін абзац тое, што можна разгарнуць у цэлы артыкул? А мне быў цікавы якраз адваротны працэс, каб думка, якая рассейваецца, разгортваецца на цэлы артыкул, каб яна сціснулася і прысутнічала амаль у якасці афарызму. Цікавай была гэта квінтэсенцыя. Тут, канечне, зноў мы сціснутыя, але якраз з гэтай сціслаcці і вынікае новая якасць.

Зномы значнае месца займаюць у кніжцы. Гэта ледзь не своеасаблівая кніжка ў кніжцы. Але яны назбіраліся з году ў год, і пытанняў не паўставала, ці рыхтаваць нешта асобнае, ці ўключыць у кантэкст іншых паэтычных жанраў. Я яшчэ раз пагартаў, пагля дзеў і адчуў, што ўсё ж такі яны прыналежаць не толькі філасофіі, не толькі крытыцы, не толькі літаратуразнаўству, але і паэзіі, і я далучыў іх да чыста паэтычных жанраў.

**— Яны сталі вельмі цікавым дапаўненнем да астатніх раздзелаў, нават пэўным падсумаваннем гэтага выдання. Мусіць, у гэтым і ёсць своеасаблівасць творцы, калі ён здольны спалучыць абсалютна розныя, на першы погляд, жанры, якія ў судзеянні набываюць новыя рысы і яшчэ больш высвечваюцца, як шматграннік, сваімі гранямі. У залежнасці ад таго, як падае праменьчык святла на іх, яны і даюць нам свой знак: сваё цяпло або, наадварот, халоднае рацыю, якое, дарэчы, усё роўна звязана з чалавечай цеплынёй. Алесь Сцяпанавіч, а што яшчэ можна ўгледзець на распрацаваным далягля дзе "Літаратурныя формы Разанава"?**

— У свой час крытык Анатоль Сідарэвіч казаў, што ў беларускай паэзіі Разанаў сам накірунак і сам школа. Канечне, да зномаў, калі карыстацца гэтай тэрміналогіяй, хутчэй адносіцца слова "школа". Гэта было ў той час, калі я распачынаў свой паход на засваенне новых паэтычных абсягаў. Я думаю, што гэты паход доўжыцца. Ён будзе доўжыцца, таму што недзе закладзены ў душы той няўрымслівы ген, які не хоча працаваць на колькасць, яму трэба нешта адкрываць, казаць тое, што дагэтуль не казалася.

І ў "Мастацкую літаратуру" здадзены рукапіс новай кнігі, якая мае назву "Рэчаіснасць". Там будуць тыя самыя жанры, пра якія мы і сёння гаварылі, але будзе, можа, эксперыментальны, а можа, нават і дужа-дужа традыцыйны жанр: ён мае назву ўмоўную — узнаўленні. Я звярнуўся да нашай гісторыі, да гісторыі беларускай літаратуры і паглядзеў, якія мы бедныя і ў той жа час — багатыя. Бедныя таму, што не актывізавалі некаторыя пласты, якія засталіся ў гісторыі. А багатыя таму, што там столькі многа ўсяго, такое ёсць, што калі б гэта актывізавалася, увайшло ў сённяшні дзень, то, відаць, усе суседзі сказалі б, што беларуская літаратура — адна з самых багатых у Еўропе.

Я звярнуўся да тэкстаў, да постацяў старажытных аўтараў. Яны тады не пісалі, канечне, так, як пішам мы цяпер, але тым не менш у іхняй сінкрэтычнай мове — ці гэта прадмова да нейкай кнігі, ці гэта слова святарскае, як казанне, як пропаведзь — у іхняй мове, вельмі насычанай, вобразнай, ужо прысутнічае паэзія. Мая роля была як бы ўзнавіць тое, што стваралася тады, сродкамі сучаснай беларускай мовы. Зрабіць пэўную рэстаўрацыю. Таму што тыя тэксты красамоўныя і даступныя толькі невялікаму колу даследчыкаў, знаўцаў. Мяняецца не толькі час, не толькі жанр, літаратура, але і сама мова. Тая мова, якая была арганічная і ўласцівая таму далёкаму часу, цяпер ужо становіцца амаль няўцямнай. Такі вось дыялог.

У спадчыне заўсёды існуюць два пачаткі: колішні, калі чалавек нешта зрабіў, сказаў, напісаў — і цяперашні, калі нас з вамі сучаснік слухае, разумее, актывізоўвае той пачатак, той тэкст, тую постаць. Без гэтага другога полюса, без актыўнага цяперашняга пачатку і спадчына немагчыма. Яна ператвараецца ў суму музейных экспанатаў, мы мелі яшчэ і высокую паэзію, літаратуру. І таму ёсць у будучай кнізе цэлыя пласты гэтых узнаўленняў: і Кірыла Тураўскі, і Францішак Скарына, і Мялецій Сматрыцкі, і Васіль Цяпінскі і інш., якія гучаць як нашы сучаснікі.

**— Жывая паэзія, якая ідзе ў сённяшні дзень і звязвае чытача, увогуле нашага сучасніка з гісторыяй, з мінуўшчынай.**

— І, мяркуючы па тых тэкстах, можна сказаць, што ў нас ёсць і высокая тэалогія і глыбокая паэзія.

**— Гэта цікава. Тады яшчэ ў працяг пытанне: гістарычная мажлівасць паэзіі і гістарычнае ў паэзіі?**

— Хоць гісторыя адзіная, але кожны чалавек, і творца ў тым ліку (а можа, найперш ён), усталёўвае з гісторыяй свой дыялог. Абжывае па-свойму, актывізуе ў ёй тыя пласты, якія яму найбліжэй, кліча з гісторыі тыя постаці, якія яму зараз нешта кажуць. Нават у сучаснасці, цяпер, у сённяшнім дні ў нас ёсць зноўтакі свае знаёмствы, свае адносіны да людзей, ёсць свая ўлюбёная тапаграфія. І гісторыя зноў-такі чалавекам успрымаецца і клічацца праз прызму сучаснасці, праз прызму таго, хто ён ёсць цяпер.

Мае гутаркі з гісторыяй ужо таксама маюць сваю гісторыю. У колішнія часы гэта былі вершы: і "Арышт Кастуся Каліноўскага", і "Папярэджанне", дзе паўставаў вобраз Ефрасінні Полацкай. Цяпер гэта згаданыя вышэй узнаўленні, а нядаўна з'явілася новая рэч — паэма "Усяслаў Чарадзей", яна друкавалася ў часопісе "Крыніца".

Увогуле я скажу, што, мабыць, у апошнія часы, у найбольш такія інтэнсіўныя часы з жыцця нашага грамадства мяняецца кантэкст гісторыі, нават мера кантэксту гэтай самай гісторыі. Што да мяне, дык я раптам пачаў пачувацца, што я жыхар Вялікага княства Літоўскага.

**— Цудоўнае пачуванне!**

— І гэтае адчуванне дапамагае мне ўваходзіць, скажам, у кантэксты іншых народаў як свайму чалавеку. Проста жыхар Беларусі — я не маю ўваходу ў тыя самыя кантэксты. У Еўропе і па-за межамі яе мяне вельмі кепска ведаюць, амаль не ведаюць. Але калі я станаўлюся жыхаром Вялікага княства Літоўскага, я папросту ўваходжу ў Еўропу і мяне там, так сказаць...

**— Прымаюць як свайго.**

— Прымаюць і ведаюць. Гэта трошкі жарт, але ў гэтым жарце ёсць, канечне, доля праўды і свой сур'ёз. Нам трэба ствараць яшчэ асновы. Скажам, тая ж літаратура. Гавораць, гэта працэс, рэчышча. Але калі яшчэ не створаны асновы, то гэты працэс можа апынацца такім хісткім і ўвогуле аказацца пад пагрозай. Я што маю на ўвазе? Павінны быць актывізаваны, створаны, дастворваны, а можа і перастворваны некаторыя асновы, з якімі сама ідэнтыфікуецца народ, народная свядомасць. І тут яшчэ мы маем вялікую патрэбу і ў гістарычных творах, і ў сваім эпасе. Эпас таксама бывае вельмі розны. Ён можа быць створаны і на аснове гістарычных падзей, і на аснове фальклору. А ўрэшце эпасам можа быць і ўзноўленая сума тых самых твораў, пісьмовых твораў, якія ў нас ужо ёсць, але якія ляжаць у нашых запасніках, у нашай спадчыне. Вось калі будуць створаны гэтыя асновы, тады пагрозы нацыянальнаму існаванню, відаць, не будзе. Яна не пасмее падступіцца тады да народа.

**— Пытанне апошняе. Алесь Сцяпанавіч. На пачатку нашай размовы вы казалі, што творца заўсёды на пэўным шляху, што менавіта шлях вызначае яго жыццё, яго сутнасць. У такім разе, вы — як падарожнік гэтага шляху — як сёння сябе пачуваеце?**

— Яшчэ раз: адрозненне шляху ад усталяванай дарогі, якую можна вызначыць і планаваць далёка наперад, у тым, што шлях — гэта заўсёды жывы дыялог. Жывы дыялог з тымі самымі рэаліямі рэчаіснасці з тым самым сённяшнім днём, які заўсёды нечым адрозніваецца ад учарашняга, ад папярэдняга. Я дазваляю... Дазваляю, каб гэты дыялог адбыўся. І не хачу глушыць тыя самыя тонкія галасы, якія ўваходзяць у гэты дыялог, у гэту размову. Бо калі я сваёй воляй, сваім голасам нешта вызначу або прадвызначу — тыя тонкія галасы і тыя самыя тонкія сферы скажуць: ну а навошта тады мы? А паэзія якраз мае справу з рэчаіснасцю ва ўсім яе маштабе. І тонкая рэчаіснасць там займае вельмі і вельмі істотнае месца.

**— Хай доўжыцца ваш шлях, і дзякуй вялікі за гэтую гутарку.**

**Гутарыла Галіна ШАБЛІНСКАЯ**

# ФРЭСКІ

Яраслаў ПАРХУТА



## МЕСТАЧКОВАЯ ПЛОШЧА

Усе нашы мястэчкі аблічам сваім падобныя. Асабліва іхнія плошчы, надзвычай утульныя і спрэс убрукаваныя палявым каменем. На адных камень яшчэ цэлы. На другіх — патрэскаўся ад стагоддзяў. На трэціх — злізаўся і схаваўся пад коўдрай асфальту. Але плошчы аднолькава служаць людзям.

Адзін местачковец сказаў:

— Яны і сны аднолькавыя сняць. І мову матчыну аднолькава берагуць. І жаданні народа выказваюць аднолькава. Улады мяняюцца, а патрэбы людскія застаюцца тымі ж.

...Нядаўна і мой слых на плошчы лавіў спрадвечнае:

— Хлеба, волі і лепшай долі!..

Парадокс гэта ці заканамернасць?

## ДУША

Яна была ў яго спагадлівай і чулай. Як да гора чужога, так і да чужой радасці. І людзі не маглі нахваліцца:

— Светлая душа, боская!..

Дачуўся пра гэта Сатана, прыімчаў, стаў круціцца вакол, упрошваць:

— Прадай! Мне во як патрэбна душа твая! Што хочаш прасі, толькі дазволь ёй перайсці ў царства маё.

Чалавек быў натуры памяркоўнай. Паспачуваў Сатане. А душу не прадаў — за так аддаў. І тут жа зрабіўся глухім і да чужой радасці, і да чужой бяды. Жыў толькі сваім.

Людзі ўжо казалі:

— Чэрствая душа ў яго! Не мець ёй спакою ні на гэтым, ні на тым свеце...

Яно так і сталася.

Дажываў ён свой век у вялікай трывозе. А трапіў у замагільны свет — лягчэй не стала: то вазіў на сабе смалу, то кіпеў у ёй. І яшчэ нейкая страшная сіла прымушала штодзень грукаць у нізкае скляпенне замагілля і крычаць:

— Усім, хто наверсе! Даруйце і ўратуйце! Не буду болей Сатане слугаваць! Паверце!..

Але яму ўжо ніхто не верыў.

## ШЧАСЛІВЫ

Як на крылах ляцеў дадому. Валошкавыя вочы гарэлі блакітам, на твары цвіла ўсмешка. Сустрэчныя таксама ўсміхаліся яму. Разумелі: на душы чалавека — вясна!

А ён раптам прызнаўся:

— Людзі! У маім сэрцы расцвіла ружа! Бачыце, як ажываюць яе пялёсткі? Чуеце непаўторнасць жыцця?

Прахожыя спыняліся, паціскалі плячыма і ўжо не ўсміхаліся. Адзін з іх сказаў:

— Вар'ят!..

Не заўважыў каменя, кінутага ў душу. І далей не ішоў — ляцеў. Вочы гарэлі ранейшым агнём. На твары цвіла ранейшая ўсмешка.

— Вар'ят! — сказалі ўжо некалькі прахожых.

І толькі бабулька, што дагэтуль маўчала сціпла, прашаптала ўслед:

— Шчас-лі-вы!..

## АПОСТАЛ

Апостал ішоў па збалелай зямлі і сеяў Дабро, Згоду і Мір. А следам беглі аблудныя і крычалі:

— Распнуць яго!

— Распнуць!

— Распнуць!..

І распнулі.

І толькі тады зразумелі, што страцілі. Па дарогах зямлі кінуліся фарысеі. Вялікія і малыя. Свае і чужыя. І сеялі Зло, Ману і Смерць.

Першымі ачнуліся мацяркі. Падняліся ў рост, ламаючы рукі:

— Дзе ты, Апостал?

Апостал не падаваў аб сабе аніякага знака.

## ХЛЕБ

І было сказана:

— Хлеб здабываць будзеш у поце твару свайго...

І чалавек здабываў. Год ад году. І дзяцей сваіх навучыў гэтаму ж. А тыя — навучылі сваіх дзяцей, тыя — сваіх.

І хлебам надзённым карміўся ўвесь свет.

Ды раптам усё перайначылася: у чалавека адабралі саху, сявенькy і жорны. Перасталі паважаць яго, а таго, хто здзекі чыніў над ім, — узносілі да нябёсаў.

І здарылася непапраўнае.

Учора на скрыжаванні гарадскіх вуліц убачыў дзядка. Ён стаяў з працягнутай рукою, і ў вачах яго ных жыла адзіная просьба:

— Падайце на кавалак хлеба!..

Яму падавалі. Тыя, хто сам рады быў чэрствай скарынцы. А тыя, у каго штодзень гнуліся сталы ад заморскай яды, праходзілі міма. Брыдзіліся нават зірнуць на яго!

...Што зрабілася з людзьмі на зямлі?!.

## ПТУШКІ

На тваё пляча сеў белы голуб. Пазірае аддана ў вочы і вуркоча, вуркоча. Паведаміць штосьці важнае хоча?

На тваё пляча сеў чоран воран. Пазірае з трывогай у вочы і крумкоча, крумкоча. Паведаміць штосьці страшнае хоча?

— Голуба прывечу, ворана адпрэчу!..

Але ні той, ні другі не адкрыліся — падняліся з пляча і ў тумане згубіліся.

І тады да цябе прыляцеў мілы бусел. Стаў у небе кружыць, стаў з табою дружыць. Кружыць і клякоча, кружыць і клякоча. Чаго ж напрарочыць хоча?

— Голуба прывечу. Ворана адпрэчу. А з буслом пайду па зямлі!

## ВЫШЫНЯ

Ён любіў дарогі, што вялі ўгору.

Цяжка было нагам, нялёгка было сэрцу. Але адольваў вярсту за вярстой. І ягоная душа спявала.

"Так яно і павінна быць, — радаваўся ён. — І жаваранак пяе толькі тады, як падымаецца..."

Нарэшце і яна, жаданая вяршыня. Аднак яму чамусьці думалася: "Я толькі ля падножжа яе!.." Таму прагна ўзіраўся ўдалячынь, вышукваючы новую вышыню. Знаходзіў дарогі да яе і — зноў у шлях.

Не лягчэй нагам, не лягчэй сэрцу. А ён, як і раней, адольваў вярсту за вярстою. І ягоная душа зноў спявала.

Ад песні тае карацейшай здавалася дарога, што вяла ўгору.

## ПАДКОВА НА ШЧАСЦЕ

Яе знайшлі на дарозе.

І над парогам прыбілі.

На шчасце.

Толькі дзе тое шчасце? Конь у чужых табунах заблудзіўся. Каваль слынны даўно на пагосце заснуў. Смелы вершнік ад шаблі чужацкай загінуў...

Каня ў табунах Беларусі маёй адшукаю. Горан бацькавай кузні наноў распалю. Накую вухналёў. Шыпы загартую надзейна. І другое жыццё падкове старой падару.

Конь-агонь зноў успомніць былую пагоню. І ад іскраў адчайных займецца паўнеба зарой.

Ну а вершнікам я прызначу адзінага сына. Хай за волю і шчасце Радзімы, як продак яго, пастаіць!

## ЧАЛАВЕК І АНЁЛ

На белых крылах анёлы неслі Чалавека над зямлёй. І яму было добра. Над ім шчодра свяціла сонца, пад ім спакойна праплывалі родныя краявіды. І сэрца поўнілася дзівоснымі песнапеннямі.

— Адкуль гонар такі? — запытаўся Чалавек.

Ды раптам заўважыў: над ім гарэла чорнае сонца, пад ім цяклі атрутныя рэкі, а ў сэрцы было глуха. І Чалавек не вытрымаў:

— Вярніце мяне на зямлю! Ва ўсім, што сталася, я вінаваты!

Ён упаў на калені, стаў прасіць Усявышняга, каб зямлю пазбавіў благога.

Але Усявышні не пачуў яго.

Анёлы, пралятаючы міма, думалі:

— Чалавек не замоліць грахоў сваіх...

## ДЗЕД І БАБА

Ужо каторы год кожная раніца ў іх пачынаецца аднолькава — з маўчання. Маўчаць і ўдзень, калі поркаюцца па гаспадарцы. Маўчаць і ўвечары, калі збіраюцца спаць.

І цяпер, седзячы побач, пазіраюць у акенца і маўчаць.

— А пра што гаварыць? — апраўдваецца дзед. — За жызню ўсё перагаворана, усё абгаворана. А з пустога ў парожняе пераліваць няма ніякай патрэбы.



Баба ўдакладняе:

— Цяперака толькі адно робім — жджэм, хто каго хаваць будзе...

Ці дадасі што-небудзь да сказанага?

## ЛАСТАЎКА З ПЕРАБІТЫМ КРЫЛОМ

Зусім яшчэ нядаўна цешылася жыццю. На ляту лавіла дажджыны. Купалася ў сонечных промнях. Белаю грудкаю дакраналася аблокаў. А цяпер — ляжыць у траве. З перабітым крылом.

Ластаўка глядзіць, як ацiхае вецер, журбоціца сонца, плача зялёная трава, згадвае каршачка, што напаў на яе знянацку, і вялікім болем напаўняецца яе маленькае сэрца...

Ёй аніяк не падняцца. Застаецца адзінае — ляжаць. І чакаць. Канца.

Яна і ляжыць. І чакае.

А як ёй хочацца неба!

## ІМЯ

Яно прыходзіць заўсёды ў бяссонне маё. І я вымаўляю адны і тыя ж словы малітвы:

— Самае светлае ў свеце, святлом дабрыні свяці! Не шкадуй цеплыні свае. Як грамнічная свечка зімою. Як сонца вясною. Ты ж з калыскі Ярылы!..

Я нясу цябе па спакутаванай зямлі, і да скону дзён не памрэш на вуснах маіх. І ўвесь час буду жадаць табе толькі светлага. У нашым вар'яцкім жыцці чорнага і так хапае!..

Прамаўляю гэту малітву і адчуваю: над бяссоннем маім прабіваецца кволенькае цяпельца святла. І сэрца не стамляецца паўтараць:

— Самае светлае ў свеце...

— Самае светлае...

— Самае...

## ДАРАДЦЫ

Дзед казаў:

— Вучыся ў мураша. Глядзі, які руплівы ды старанны...

І ты вучыўся.

Бацька раіў:

— Буслінай вернасці, адданасці вучыся...

І ты вучыўся.

Маці падказвала:

— А песні? Найлепей у салоўка ім вучыцца...

І ты вучыўся.

Гады мінулі. Скроні густа прыпудрыў снег. Нялёгкіх дарог за плячыма набралася безліч... І сёння, на схіле жыццёвага дня, ты раптам адчуў, што нешта маеш і ад мураша, і ад бусла, і ад салоўкі.

І пакланіўся дарагім магілам.

## ДАРОГІ

Ёсць дарогі да матчынай хаты.

Ёсць дарогі да сэрца каханай.

Ёсць дарогі да храмаў.

Дарогу да матчынай хаты зааралі плугамі. Дарогу да сэрца каханай засыпалі камянямі. Дарогі да храмаў засеялі чарнабыллем.

О, каб можна было зыначыць усё — аднавіць дарогу да матчынай хаты, сабраць камяні са сцяжыны к сэрцу каханай, а да знявечаных храмаў расцерабіць шляхі!..

Тады кожны адчуў бы наноў сэнс найдаражэйшага ў свеце.

## КРЫНІЦА

Спрадвеку цякла за сялом і аддавала сябе ўсяму свету. Нябёсам — каб заўсёды былі блакітнымі. Жаваранку — каб ягоная песня звінела званчэй. Сонцу — каб свяціла ярка і доўга.

Аднойчы запыталіся ў крыніцы:

— А што нябёсы, жаваранак ды сонца далі табе?

У адказ пачулі:

— Сонца — сваю цеплыню. Жаваранак — сваю галасістасць. Нябёсы — блакіт свой.

Так бы кожнаму з нас!

## РАЗВІТАННЕ

Усё жыццё было ў рамках, рамах і кратах. Таму рука заўсёды цягнулася да нажоўкі.

Пілаваў жалезныя прэнты і днямі, і начамі. Але не змог перапілаваць ні рамак, ні рамаў, ні кратаў. Так і сканаў, не адчуўшы ні хвілінкі волі, ні глыточка паветра свежага, ні праменьчыка сонца жывога.

Апошняй просьбай была:

— Не грайце нада мною жалобных маршаў. Не праўце доўгай імшы. І навошта развітальныя словы-прамовы? Лепш няхай чароўная скрыпка Валодзі Пузыні сыграе мне Паланез. Тады адыходзіць можна спакойна.

А праз нейкі час і вярнуцца.

...Бо з Радзімай навек не развітваюцца.

# ПАД АДНОЙ ВОКЛАДКАЙ

## ПОЛЬСКІЯ ВЕРШЫ ЯНКІ КУПАЛЫ

Польскамоўныя вершы Янкі Купалы. Яны былі перадрукаваныя на машынцы і сабраныя паэтам у адзін сшытак. Пасля там-сям з'явіліся аўтарскія праўкі і запіс: "Пісаў у 1906 г. І. Луцэвіч". Ці намерваўся паэт выдаць іх асобна, адгадаць цяжка. Ва ўсякім разе, пад аднымі вокладкамі былі аб'яднаны не ўсе вершы, напісаныя Купалам па-польску. У сшытак не трапілі творы, якія, паводле агульнай згадкі паэта, публікаваліся як быццам у часопісе "Ziarno" ("Зерне"), а таксама прысвячэнне сястры Леакадзіі і жартоўны верш "Кабеце", датаваны 14 ліпеня 1904 года і запісаны Купалам на той старонцы, на адвароце якой маецца бадай ці не першы яго твор на беларускай мове — "Мая доля", пазначаны датаю 15 ліпеня 1904 года, і вершаваная страфа, блізкая паводле зместу да "Мае долі". Відочна, Купала кіраваўся мастацкім прынцыпам выбару, калі, складаючы машынапісны сшытак вершаў, палічыў патрэбным не ўключаць у яго іншыя свае польскамоўныя творы. Прысвячэнне сястры паэта згубілася ў завірусе дзён, змест лірычнага жарціка "Кабеце" працяглы час не быў даступны, бо старонка з яго тэкстам была заклеена, а вершы, змешчаныя ў польскім друку, з-за няпэўных звестак наўрад ці будуць калі атрыбутаваны. Адзін з іх — "Малітва". Вершы "Кабеце" і "Малітва", з якімі беларускі чытач пакуль не меў нагоды пазнаёміцца, будуць абавязковыя ў Поўным зборы твораў Беларускага Песняра.

Польскамоўная паэзія Янкі Купалы — пэўная даніна білінгвальным традыцыям беларускага літаратурнага жыцця ў мінулым стагоддзі. Шлях ад іх засваення да іх пераадолення ён прайшоў надзвычай хутка. І гэта быў подзвіг яго чалавечага духу, подзвіг, які не мог не здзейсніцца, бо ў ім ужо магутна і таленавіта пачынала біцца сэрца прарока, чаканага выпрабавальнай гісторыяй беларускага адраджэння. Стыхія роднай беларускай мовы вывела паэта на бязмежныя прасторы адкрыцця новых мастацкіх магчымасцяў, вызначыла нацыянальнае сцвярджэнне яго паэтычнага генія.

**Уладзімір МАРХЕЛЬ**

ЯНКА КУПАЛА

### КАБЕЦЕ

**Малады, вучоных працаў
Я чытаў калісьці многа:
Скуль было кабеце ўзяцца —
Не зайшоў аб тым нічога.**

**Што яна — найбольш цікава.
Ці яна дабро святое?..
Ці для шчасця, для забавы?..
Ці яна праклятце злое?..**

**Так напэўна б я ў бязгрэшны
І ў няведанні застаўся,
Каб, раз Янкеля сустрэўшы,
Пра ўсё чыста не дазнаўся.**

**Янкель слыў практычнай славай,
Як жыд кожны замыслёны,
І таму з кабечай справай
Знаўся лепей за вучоных.**

**І кабет ужо нямала
Ім за жыцце памяняна.
Любасць дорачы ім стала,
Ён уведаў іх заганы.**

**Быў ён жыд — з тае нагоды
Верыць можна без пагрозы,
Бо прыемна нейк заўсёды
Слухаць нам жыдоўскі розум.**

**Вось тады што Янкель гэты,
Распавёў мне пра кабету:**

**Што загадкай ёсць жанчына,
Што разумная надзвычай,
Што, ўявіце, быць павінна
Гэта кепска ўсё зазвычай.**

**І хто толькі парываўся
Распазнаць яе, даследваць,
Той не раз пераканаўся,
Што яе не ў стане зведаць.**

**Ды загадка ў тым спазнанні,
Да якога прагнем рваццa
Мы ажно і пры сканнi,
Часта страшнай можа здацца.**

**Вам кажу: калі ахвота
(Так далей мне Янкель баяў),
Жыць на свеце без турботы,
Каб ад злога Бог вас збавіў,**

**То не рвіцеся ніколі
Спазнаваць загадку гэту,
Бо памылак ёсць даволі:
Не раскрыць ніяк сакрэту.**

**І калі ў сіло ўпадзеце,
Што пастаўлена кабетай,
То напэўна прападзеце,
Нібы ў згубнай апраметнай.**

### МАЛІТВА

**Мой дух дарма крывёй сцякае
І мысль дарма ў пакуце скача
Пад роспач несціхана.**

**Жальба не выбавіць зямная
І не ўратуе скарга з плачам —
Мне толькі ў Твой бок пазіраці,
Прачыстая Хрыстова Маці!
Панна!..**

**Хвала Табе, Святая Пані!
Плывуць маёй пакуты гукі
Да ног Тваіх у гімне!**

**О, не пакінь у вышнім ззянні!
Бо голас мой нязбытай мукі,
Нібыта ліст, віхурай гнаны,
А сэрца, бы з суцэльнай раны,
Гіне!**

**Уявы, мроі, сноў снаванне —
Усё сплыло ў жыццёвай хвалі,
Хвастаў лёс у аблудзе!**

**Я цацкай быў яго гуляння,
І хоць цярпенні спавівалі,
Заўсёды з гордай быў душою,
Пагардай не плаціў сваёю
Людзям!**

**З польскай пераклаў
Уладзімір МАРХЕЛЬ**

Пошта

# УЧОРА... І СЁННЯ

Так балюча за родную, блізкую, гаротную мову! Прыходзіцца чуць у яе адрас, а, значыць, і ў мой, столькі пагарды, грэблівасці, скептычнай іроніі, што — цяжка, немагчыма жыць. Я — чалавек эмоцый, і мне не заўсёды ўдаецца стрымліваць сябе. Нават не дапамагае славуты Дэйл Карнегі, які пераконвае, што стрыманасцю і паблажлівасцю можна дасягнуць у жыцці вышынь, раўнавагі і спакою.

Скажыце, як можна быць спакойным, калі цябе за ўсё жыццё спрабавалі зразумець (ці толькі прыкідваліся) толькі нядаўніх пяць гадоў. Хто шчыра, а хто следуючы модзе пачалі вывучаць продкамі перададзеную нам мову. Мяне гэта радавала.

Ды не паспелі аб'явіць вынікі рэферэндуму, як свет вывернуўся шыварат-навыварат. Я многіх проста не пазнаю. Не хапае вачэй, розуму ці мудрасці, каб пазнаць ці зразумець. Я доўга сябе лічыла нядрэнным псіхолагам. Аказваецца, памылялася.

Мяне мала хто падтрымлівае ў дачыненні да мовы. Некаторыя, мусіць, нядрэнна засвоіўшы ўрокі Дэйла Карнегі, абыходзяць моўнае пытанне. Яны жывуць прынцыпамі: усё роўна, на якой мове размаўляць. Ім адно не ўсё роўна — чым набіць свой страўнік, хату і дачу.

І як тут не будзеш узрушаны, калі паўтараецца нядаўняя гісторыя, якая здарылася са мной на Лепельшчыне.

Памятаю, як падалі свой смелы голас нефармалы ў абарону і адраджэнне мовы, культуры, герба і сцяга Беларусі. Мяне не трэба было пераконваць (як беларусазнаўцу) у вывучэнні роднай мовы, я шчыра радавалася пачатаму руху, была ад усведамлення неўміручасці нашай нацыі на сёмым небе. З сябрамі па газеце і радыё пазнаёміліся з праграмай адраджэння беларусаў. Памятаю, крыху спрачаліся па асобных пытаннях, але ўсё ж пагадзіліся, што над дакументам працавалі сур'ёзныя людзі, адукаваныя і апантаныя ў сваёй справядлівай і пачэснай для люду беларускага і краю роднага справе. Менавіта тады мы і пазнаёміліся з сям'ёй Вінцука Вячоркі, пабылі ў іх у гасцях. Мяне ўразіла ў іх доме, што ўсе — ад дзетак 2—5 гадоў да сяброў Вячорак, якія таксама сабраліся тым днём, — размаўлялі, прытым лёгка, нязмушана, на нашай роднай мове. Было радасна і прыемна на душы і на сэрцы.

Але ўсё тое было хутка азмрочана тым, што нас... пачалі праследаваць, высочваць, учыняць допыты, прыпісваючы нам фантастычна-неверагодныя ўчынкі. Мяне асабіста здымалі з урокаў, пакідаючы вучняў адных у класе, каб учыніць доўгі допыт, які вёўся сакратаром райкама партыі ў прысутнасці дырэктара школы (урокі якога таксама зрываліся) і сакратара партарганізацыі мясцовай гаспадаркі. Яны ўтрох, то лагодна, то пераходзячы на крык, спрабавалі выцягнуць з мяне адказы, у якіх "падвальных" памяшканнях мы збіраемся, дзе, у колькі і ў якія дні, чаму мы выбралі беларускую мову (самае галоўнае пытанне часу!), чаму мы хочам аддзяліць Беларусь ад Савецкага Саюза і выгнаць усіх рускіх з рэспублікі. Калі я паказала свой пашпарт з запісам маскоўскага нараджэння і што я па нацыянальнасці — руская, то і на гэты довад яны прыводзілі шмат неверагодных домыслаў...

Амаль паўгода я вымушана была даводзіць, што я не слон, не вярблюд і... не бык, што мову рускую, матчыну, паважаю на ўзроўні з беларускай, бацькавай, але калі я жыву ў Беларусі, дык буду гаварыць на роднай мове майго народа.

Маім расчараванням і бедам, здавалася, не будзе канца. Неўзабаве, праз нейкі час, усё тое мне зноў нагадалі — тады, калі мая асоба падлягала ў школе і раёне атэстацыі і калі я падала заяву аб уступленні ў рады камуністычнай партыі.

Напярэдадні мне напісалі проста ідэальную характарыстыку. І раптам... характарыстыку рашылі перагледзець і перапісаць, зрабілі яе да смешнага супярэчнай і з вывадам: у сваіх поглядах і перакананнях я няўстойлівая, са мною неабходна праводзіць адпаведную выхаваўчую работу...

Памятаю спецыяльнае пасяджэнне ў раёне. Я адчувала на сабе спапяляючыя погляды прысутных і несхаваную нянавісць толькі за тое, што я абрала сваёй мэтай у жыцці прапаганду роднай мовы...

Гэта было нядаўна. Нешта падобнае паўтараецца і сёння.

У аддзеле народнай адукацыі афармляю адзін з дакументаў. Пішу на беларускай мове. Запоўніўшы канцылярскі бланк, аддаю яго супрацоўніцы. Спатыкнуўшыся на слове "жнівень", жанчына раптоўна ўскідвае на мяне вочы.

— Что это?

— Жнівень. Месяц такі, — адказваю.

— А какой это месяц по-русски?

— Август.

— Больше по-белорусски у нас не пишите.

— Гэта чаму ж?

— У нас документы оформляются только на русском языке...

Дай, Божа, мне цярпення!

**Вера БУЛАНДА**
*в. Навасёлкі, Барысаўскі раён*

# МІХАСЮ НЯХАЮ — 60

**Крытык і літаратуразнавец Міхась Няхай — родам з вёскі Галоўныя Ляды Бярэзінскага раёна. У 1954 годзе скончыў Багушэўскую сярэднюю школу, служыў у арміі, працаваў на розных прадпрыемствах, у рэдакцыі тагачаснай Камарынскай раённай газеты. У 1964 годзе завочна закончыў факультэт журналістыкі Беларускага дзяржаўнага універсітэта, у 1968, таксама завочна, аспірантуру Мінскага педагагічнага інстытута.**

**З 1968 па 1970 год М.Няхай — рэдактар, загадчык рэдакцыі ў выдавецтве Беларускага дзяржаўнага універсітэта, з 1970 па 1972 — загадваў праблемнай навукова-даследчай лабараторыяй Беларускага інстытута народнай гаспадаркі. З 1973 года працаваў ў Магілёўскім дзяржаўным педагагічным інстытуце — выкладаў беларускую літаратуру, загадваў кафедрай беларускай літаратуры, з'яўляўся дэканам філалагічнага факультэта. З 1978 года — дацэнт кафедры беларускай літаратуры Мінскага інстытута культуры, навуковы кансультант міжкафедральнай навукова-даследчай лабараторыі студэнтаў па літаратурным краязнаўстве.**

**Літаратурную працу М.Няхай пачаў у 1962 годзе, выступаючы з артыкуламі па праблемах развіцця літаратуры, з рэцэнзіямі на кнігі, з краязнаўчымі нарысамі. Выдаў манаграфію "Рускі дэмакратычны нарыс 60-х гадоў XIX стагоддзя" (1969). Аўтар кнігі гумарыстычных апавяданняў "Грыцюкоў характар" (1986), даследчыцкай працы "Сустрэчы з Прыдняпроўем. Янка Купала і Якуб Колас на Магілёўшчыне" (1992).**

**Віншуем Міхася Васільевіча з 60-годдзем! Зычым яму здароўя, поспехаў у жыцці і творчасці!**

# ТРЭЦІ НУМАР

**"Беларускага гістарычнага сшытка" з часу яго выхаду і першы за сёлетні год выйшаў у Беластоку. Адкрываецца ён артыкулам А.Шаланды "Да пытання аб паходжанні герба Хадкевічаў...". "Сітуацыя беларускага насельніцтва ў Польшчы ў 1945-1956 гадах" — тэма выступлення Я.Мірановіча. Абодва гэтыя матэрыялы змешчаны па-беларуску.**

**Не менш цікавыя і польскамоўныя публікацыі, што ахопліваюць розныя аспекты мінуўшчыны, у тым ліку і той, што тычыцца польска-беларускіх стасункаў. А.Мірановіч знаёміць з малавядомай геральдычнай распрацоўкай, аўтар якой М.Шанціла выкарыстаў хронікі, архівы і летапісы літоўскіх князёў да 1650 года. Рукапіс гэтай унікальнай працы захоўваецца ў архіве Пецярбургскага аддзела Інстытута гісторыі Акадэміі навук Расіі. С.Александровіч, расказваючы аб стане беларускай гістарыяграфіі да 1918 года, прыходзіць да высновы, што наспела патрэба новага фундаментальнага гістарычнага сінтэзу. Пра тое, як дзейнічала беларуская самаабарона на Беласточчыне ў 1945—1947 гадах, можна даведацца з матэрыялу С.Іванюка.**

**Нямала ў нумары і іншых матэрыялаў.**

# ДА ЮБІЛЕЮ МАТЭМАТЫКА



**На будынку Гомельскага навукова-даследчага інстытута механікі металапалімерных сістэм, дзе размешчаны і філіял Інстытута матэматыкі Акадэміі навук РБ, адкрыта мемарыяльная дошка ў гонар акадэміка, матэматыка Сяргея Антонавіча Чуніхіна, які больш за 30 гадоў адпрацаваў у Гомелі.**

**На адкрыцці мемарыяльнай дошкі прысутнічалі ўдзельнікі навуковай матэматычнай канферэнцыі з Украіны, Расіі, Беларусі, якая і была прымеркавана да юбілею вядомага матэматыка.**

*Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БЕЛІНФАРМ*

пшаніцы, у адным Антон убачыў тоненькую ружаватую іголачку з малюсенькай, ледзь прыкметнай расінкай на кончыку. То быў прарастак зярняці.

— Узыходзяць! Узыходзяць! — радасна паўтараў ён сам сабе.

Другое гняздзечка было пустое. Але была надзея, што ўзыдзе і тое зерне, раз узышло гэта. Жэбрак па-ранейшаму штораніцы бегаў на дзялянку. Цяпер яго цікавіла, ці ўзыдзе другое зерне. Не менш, чым прафесар Жэбрак, хвалявалася і Зоя Дзмітрыеўна. Але праходзіў тыдзень, другі, трэці, месяц — так другое зерне і не ўзышло...

Страта была вялікая і балючым шкадаванне. Але суцяшала тое зерне, якое ўзышло і пакуль расло нармальна. Зрабілі аналіз лісцікаў. Выявілася, што ў клетках гэтай пшаніцы ўтрымліваецца па 42 храмасомы. Дослед удаўся. Але была толькі адна такая расліна... Гэта трывожыла Жэбрака, хоць ён і суцяшаў Зою Дзмітрыеўну, што і з аднаго зерня можна з часам вырасціць столькі насення, што хопіць, каб засеяць сотні, тысячы гектараў. Адно, каб усё далей ішло добра.

— Зоя Дзмітрыеўна, пакідаю гэту расліну цалкам на вашу апеку. Упэўнены ў паспяховым завяршэнні нашага доследу. А я бяруся за новыя.

Ішоў час, мінуў май, настаў чэрвень, пачыналі выплываць каласы ў пшаніцы на калгасных палях, а тая адзіная расліна на доследнай градцы не давала сцябла. Доўгія вузенькія лісцікі яе слаліся па зямлі, жоўклі і высыхалі. Вырасталі новыя лісцікі, зноў слаліся па зямлі, а сцябліна не ўздымалася. Пачаліся розныя здагадкі. Ці не хварэе расліна на якую хваробу? Ці не точыць яе карэньчыкі чарвяк або лічынка якога жука? Зоя Дзмітрыеўна праз моцную лупу пільна агледзела ўсе лісцікі, але нічога не знайшла, расліна была непашкоджаная.

Антон Раманавіч прыйшоў да беспамылковага вызначэння прычыны застою ў росце і развіцці адзінай расліны — мутантны гібрыд пшаніцы быў апладнёны пылком азімай пшаніцы. Каб азімая пшаніца пайшла ў рост і дала каласы, трэба каб яна прайшла стадыю халоднай тэмпературы. Таму і сеюць азімыя ўвосень, каб яны ўзімку прайшлі халодную стадыю развіцця. На гэтай прыроднай аснове Лысенка і стварыў тэорыю стадыйнага развіцця раслін. Адзінае тое зерне з доследу Жэбрака мела ўласцівасці азімага, а высеялі яго вясной. Стадыю холаду яно не прайшло, таму не магло даць сцябла і коласа.

Вырашана было пакінуць расліну на зіму.

З боязі страціць расліну Зоя Дзмітрыеўна, без ведама Антона Раманавіча, перанесла яе ў лабараторыю, дзе тая не магла прайсці стадыю холаду і наступным летам... загінула. Перанос расліны ў лабараторыю быў памылкай. Каб яна засталася на зіму на доследнай дзялянцы, то ў наступнае лета дала б ураджай.

Антон Раманавіч і Зоя Дзмітрыеўна сумна і моўчкі стаялі ля градкі з засохлай раслінай... Дослед не ўдаўся...

— Што будзем рабіць далей? — спытала яна свайго прафесара, адчуваючы віну за правал доследу.

— Што будзем рабіць? Мой настаўнік, амерыканскі прафесар Морган, у такіх выпадках раіў: "Калі вам адразу не ўдалося, рабіце, рабіце, рабіце зноў!" — нагадаў ён вядомае ўжо Пранішнікавай амерыканскае правіла.

Пранішнікава сумна ўсміхнулася.

— Сізіфава праца, Зоя Дзмітрыеўна. Але паспрабуем паспаборнічаць і з Сізіфам. Упэўнены, што нам удасца вынікі нашых доследаў узняць на вяршыню навукі і замацаваць іх там, — сказаў Антон Раманавіч.

Ён супакоіў Зою Дзмітрыеўну тым, што першы дослед не быў поўным правалам. У ім была атрымана расліна пшаніцы з 42 храмасомамі шляхам штучнай мутацыі, выкліканай апрацоўкай насення калхіцынам, і атрыманы мутантны гібрыд-паліплоід, гэта значыць, з падвоенай колькасцю храмасом у клетках. Галоўнае ў доследзе ўдалося, а да канца яго не давялі з прычыны памылкі. Застаецца адно — паўтарыць дослед.

Неяк пры сустрэчы з Вавілавым Мікалай Іванавіч спытаў у Жэбрака, як ідуць доследы са штучнай мутацыяй. Антон Раманавіч расказаў усё як ёсць.

— Антон Раманавіч, віншую з подзвігам! — узнёсла прамовіў Вавілаў, трасучы Жэбрака за абедзве рукі. — "Правал" вашага доследу вывеў вас у лік першых генетыкаў свету, якія выклікалі штучную мутацыю і атрымалі мутантныя гібрыды.

Вавілаў даў высокую разгорнутую ацэнку "няўдалага" доследу Жэбрака. Па-першае, гэты дослед, як і доследы яшчэ двух-трох эксперыментатараў у паліплаідыі ў свеце, дапоўніў тэорыю Дарвіна аб паходжанні відаў. Апроч натуральнага адбору, новыя віды ў прыродзе з'яўляюцца яшчэ і шляхам мутацыі. Па-другое, абвергнута тэорыя аўтагенезу — нібы змены спадчыннасці арганізмаў адбываюцца пад уплывам толькі ўнутраных, нематэрыяльных фактараў. Дослед Жэбрака, як і іншых пачынальнікаў, даказвае, што змены спадчыннасці арганізмаў, іх эвалюцыі адбываюцца пад уздзеяннем знешняга прыроднага асяроддзя. Па-трэцяе, дослед Жэбрака раскрыў прыродны метад стварэння новых відаў раслін.

— Чакаю новых подзвігаў! — паўтарыў сваё звычайнае пажаданне Вавілаў, развітваючыся з Антонам Раманавічам.

У наступным доследзе Жэбраку сапраўды ўдалося атрымаць паліплаіднае насенне пшаніцы з 42 храмасомамі ў клетках. Такая пшаніца, з 42 храмасомамі, існавала і да эксперыментаў Антона Раманавіча і мела шырокае распаўсюджанне ў пасевах многіх краін. Толькі невядома было, як, адкуль яна з'явілася. Яна была знойдзена ў прыродзе, але знайсці яе продкаў вучоным не ўдавалася, хоць і вяліся шырокія пошукі іх. Выказваліся розныя здагадкі, але высветліць яе паходжанне вучоныя не змаглі.

Доследы Жэбрака даказалі, што 42-храмасомная пшаніца з'явілася ў выніку стыхійнай мутацыі і скрыжавання ў прыродзе 28 і 14-храмасомных пшаніц. Яму ўдалося штучна стварыць тое, што магла рабіць толькі сама прырода. Разам з тым удалося даказаць, што чалавек можа, шляхам мутацыі і селекцыі, стварыць новыя віды раслін. Важна было і тое, што метады Жэбрака не ставілі чалавека над прыродай, не былі агрэсіўнымі супраць прыроды, а былі экалагічна чыстымі, дзейнічалі паводле яе законаў.

У далейшых доследах Антон Раманавіч ставіў задачу атрымаць пшаніцы з яшчэ большым лікам храмасом. І ў тых доследах былі ўдачы і няўдачы. Так, у адным з доследаў было апрацавана калхіцынам 385 зярнят — 305 аднаго віду гібрыдаў і 80 другога. З пасеяных 385 зярнят узышло толькі пяць: чатыры расліны першага віду і адна расліна другога віду пшаніц. З 305 зярнят узышло адно... Ад першага апылення гэтых пяці гібрыдных раслін пшаніцы не завязалася ні аднаго зерня. Паўторнае апыленне дало 14 зярнят. У 27 разоў менш, чым сеялі...

Высокая бясплоднасць, кволасць зярнят, дрэнная ўсходжасць былі ўласцівы першаму пакаленню паліплаідных гібрыдаў. Другога ахапіла б расчараванне, у адчаі махнуў бы рукой на такія доследы, але ў Жэбрака быў настойлівы характар. Да таго ж ён помніў дэвіз Моргана: калі табе не ўдалося адразу — не апускай рук. Антон Раманавіч не адкінуў доследы, а ўзяўся за ўсебаковы, глыбокі аналіз вынікаў даследавання і ўмоў яго правядзення. Ён заўважыў, што часцей за ўсё не ўзыходзіла, гінула насенне, апрацаванае высокай канцэнтрацыяй калхіцыну. Ён прымяніў двайную апрацоўку насення слабым растворам калхіцыну. Беднаватыя былі і глебы, асабліва на мікраэлементы. Дабавіў угнаенні пад доследныя культуры. У выніку эфектыўнасць доследаў павялічылася.

Каб пераадолець бясплоднасць паліплаідных гібрыдаў, Жэбрак скарыстаў селекцыю і скрыжаванне паліплаідаў з геаграфічна аддаленымі відамі і сартамі пшаніцы. Ён скарыстаў пшаніцы, сабраныя акадэмікам Вавілавым на Блізкім Усходзе. Такім метадам яму ўдалося дабіцца высокай ураджайнасці паліплаідных гібрыдаў. Ён вывеў новы від пшаніцы з 56 храмасомамі і назваў яе "Пшаніца савецкая ўсходняя Жэбрака". Такога віду пшаніцы, з такой колькасцю храмасом у клетках, прырода раней не ведала. Яе стварыў чалавек, карыстаючыся законамі прыроды. Чалавек пайшоў далей за прыроду ў стварэнні новых форм раслінных арганізмаў.

У 1941 годзе акадэмік Жэбрак меў ужо 32 віды амфідыплаідных (з храмасомамі двух відаў) пшаніц. Паралельна з пшаніцамі Антон Раманавіч распачаў доследы з грэчкай і просам.

Доследы Антона Раманавіча Жэбрака спрыялі развіццю класічнай генетыкі. І сам аўтар гэтых доследаў стаў больш актыўным у барацьбе з Лысенкам, Прэзентам і іхнімі паплечнікамі.

Абрадавала і ўзмацніла актыўнасць класічных генетыкаў выбранне заснавальніка храмасомнай тэорыі спадчыннасці арганізмаў, амерыканскага прафесара Томаса Ханта Моргана ганаровым акадэмікам Акадэміі навук Савецкага Саюза.

Узмацнялася, пашыралася і абвастралася крытыка Лысенкам, Прэзентам і іхнімі паплечнікамі "фармальнай" генетыкі, як яны называлі класічную генетыку. Сутычкі адбываліся на розных нарадах, навуковых канферэнцыях, розных сходах, але яны былі спантанныя, ад выпадку да выпадку. Па ходзе гэтых спрэчак відаць было, што і лысенкаўцы, і класічныя генетыкі рыхтуюцца да рашучага бою.

# СПАДКАЕМЦЫ

Так ужо сталася, што сёлетні год аказаўся юбілейным не толькі для Яніса Райніса, але і для яго спадкаемцаў, яго сучаснікаў, якія сустракаліся з паэтам, кантактавалі, мелі творчыя стасункі. Перадусім, гэта Сяргей Пятровіч Сахараў (29.09.1880, Полацк — 22.04.1954, Рыга), беларускі фальклярыст, этнограф, педагог. З 1921 па 1922 гады ён узначальваў Беларускі аддзел пры Міністэрстве асветы Латвіі, а потым Дзвінскую беларускую дзяржаўную гімназію. Я ўжо друкаваў у "ЛіМе" (у нумары ад 6.IX.1985 г.) дакументы перапіскі С.Сахарава і Я.Райніса. Але ў маім архіве засталося некалькі рукапісных старонак Сяргея Пятровіча, якія перадала калісьці мне дачка Сахарава — Ірына Сяргееўна. Нататкі маюць загаловак: "Светлой памяти латышского народного поэта Яна Райниса-Плекшана (мои воспоминания о встречах с ним в 1921-1929 гг.)". Прапаную невялікі ўрывак з тых пажоўклых старонак, нагадаючы, што таму, хто пісаў іх, сёння спаўняецца 115 гадоў з дня нараджэння.

"Паводле канстытуцыйнага звычаю, які існаваў у Латвійскай рэспубліцы з часу яе заснавання (1918 г.), кожная нацыянальная меншасць павінна мець сваіх законным чынам выбраных дэпутатаў у Латвійскім сейме. Беларусы з выпадку сваёй слабай арганізаванасці такога дэпутата-абаронцы не мелі, які мог бы ўзняць у сейме пытанне аб культурнай аўтаноміі для беларусаў.

Дзе выйсце?

І вось пагляды беларускай інтэлігенцыі скіраваліся на папулярную фігуру латышскага паэта Я.Райніса, дэпутата Латвійскага сейма па сацыялдэмакратычным спіску. Я.Райніс адыграў такую вялізную ролю ў гісторыі латвійскіх беларусаў, што лічу неабходным хоць крыху затрымацца на гэтым моманце.

Сам Райніс нарадзіўся і вырас сярод беларускага насельніцтва — у Ілукстанскім павеце (...) І вось калі з'явілася ў ліпені месяцы 1921 г. беларуская дэлегацыя перад паэтам Райнісам, то ён сустрэў яе асабліва ветла і ласкава. Прыгадваю лагодную ўсмешку Райніса, яго светлы пагляд і яго характэрнае паторгванне плячамі.

З вялікай увагай Райніс выслухаў просьбу беларускай дэлегацыі. У гутарцы ён выказаў свае пачуцці сімпатыі да шматпакутнага беларускага народа і адразу ж выявіў сваю поўную згоду ўзяць на сябе ролю абаронцы культурных інтарэсаў як у сейме, так і ва ўрадавых установах.

Акрыленая і ўзнадзеяная словамі Райніса, беларуская інтэлігенцыя дружна прынялася за работу. Культурна-асветная справа сярод латвійскіх беларусаў развівалася і мацнела. Пад духоўным кіраўніцтвам Я.Райніса адбывалася ўзаемадзеянне і сяброўскае супрацоўніцтва між латышскай і беларускай культурамі. Вось чаму светлая памяць аб народным латышскім паэце ніколі не знікне з сэрцаў беларусаў і будзе жыць вечна!

**Сяргей САХАРАЎ".**

Сёлета споўнілася б па 90 гадоў паэту Пятру Сакалу (Масальскаму) і мастаку Міхасю Калініну. Пятро Аляксандравіч нарадзіўся 1 ліпеня 1905 года ў мястэчку Пасінь Люцынскага павета Віцебскай губерні (цяпер — в.Пасіене Лудзэнскага раёна ў Латвіі). Пасля скančэння Люцынскай беларускай гімназіі вучыўся на Беларускіх настаўніцкіх курсах у Даўгаўпілсе. Некаторы час працаваў настаўнікам-практыкантам у Дзвінскай беларускай дзяржаўнай гімназіі. Пятро Сакол — аўтар зборніка "На світанні". Ён першы перакладчык твораў Райніса і першы перакладчык дайнаў.

У пісьме Я.Райнісу ад 29 ліпеня 1926 г. К.Езавітаў пісаў: "Я ўмольна прашу Вас перамовіцца з універсітэцкім начальствам, каб яно прапусціла хоць некалькі нашых юнакоў ва універсітэт. Двое юнакоў, вельмі таленавітых, хочуць паступіць у Акадэмію мастацтваў. І пра іх мая просьба. Пасадзейнічайце іх прыёму".

Тымі юнакамі, аб якіх паклапаціўся Я.Райніс, былі Пятро Мірановіч і Міхась Калінін. Шкада, што з-за нястачы Міхаіл Сямёнавіч правучыўся ў Акадэміі толькі два гады. Але тое, што ён пакінуў пасля сябе (памёр 14 лютага 1975 г.), заслугоўвае нашае пашаны. Работы М.Калініна захоўваюцца ў Мінску ў Скарынаўскім цэнтры. Дзякуючы яго дачцэ Святлане Міхайлаўне на выстаўцы "Яніс Райніс і Беларусь" вы зможаце ўбачыць асобныя працы гэтага таленавітага самародка з беларуска-латгальскага памежжа, земляка Я. Райніса.

Сяргей **ПАНІЗНІК**

# ПАМЯЦІ СЯСТРЫ ЯКУБА КОЛАСА

**Змарнела, абламалася апошняя галіна густога Міхалавага дрэва — не стала Марыі Міхайлаўны Бруй, апошняй, трынаццатай, з дзяцей Міхала і Ганны Міцкевічаў.**

Жыла, векавала яна ў слыннай Мікалаеўшчыне. Прыязна і пачціва ставіліся да яе суседзі дый усе вяскоўцы. Прыязджалі на радзіму песняра людзі. Знаёміліся з тутэйшымі мясцінамі, з матэрыяламі філіяла музея. Некаторыя, больш цікаўныя, завітвалі і да Марыі Міхайлаўны. І яна, узрушаная гэткай павагай, ахвотна аддавалася ўспамінам. Прыгадвала даўно мінулыя гады, найперш жыццё-быццё сям'і Міцкевічаў. Успаміналa, як з маці ездзіла да Кастуся ў турму...

Ніколі не забывалася ёй першая сустрэча Коласа з Купалам. Гэта яна, дванаццацігадовая Маня, бегала з хутара Смольня ў Мікалаеўшчыну клікаць Кастуся. Маці не ведала, як лепей дагадзіць шаноўнаму госцю, якую пасцель паслаць хлопцам на вышках. Ды бянтэжнасць гаспадыні зняў сам Купала:

— Нічога, Каласок пад галаву — пераспім. Людзі мы прывычныя...

Рухавасць думкі, гарэзлівасць былі ўласцівыя сястры народнага паэта. Свой расказ яна нязменна перасыпала дасціпнымі жартамі. Часам для паўнаты гаворкі і песню завядзе. Найчасцей — беларускую народную... Не абыходзілася, зразумела, і без дэкламацыі братавых вершаў. Іх на паліцах памяці Марыі Міхайлаўны захоўвалася багата. Выдатна чытала самадзейная артыстка Купалу, Крылова, Пушкіна...

Здзівіла калісьці паэтава сястра сваёй



фенаменальнай памяццю С. Александровіча, А. Лойку і Ю. Пшыркова падчас запісу яе ўспамінаў пра Якуба Коласа. Сваё захапленне расказчыцай даследчыкі выказвалі ў друку.

...Марыя Міхайлаўна Бруй пражыла доўгі век — праз два месяцы ёй было б 95. І ўсё ж для блізкіх людзей смерць Коласавай сястры — страта.

Пухам Вам, Марыя Міхайлаўна, мікалаеўская зямля!

**Іван КУРБЕКА**

**Супрацоўнікі Літаратурнага музея Якуба Коласа смуткуюць з прычыны смерці сястры народнага песняра — Марыі Міхайлаўны Бруй і выказваюць спачуванне родным нябожчыцы.**

# “РОДАМ З... ЗЯМЛІ КРЫВІЧОЎ”

## СЯРГЕЙ КАНЁНКАЎ І БЕЛАРУСЬ

З маленства, з даўняга знаёмства з рэпрадукцыямі твораў Сяргея Цімафеевіча Канёнкава знаходжуся ў некаторым палоне мастацкай стыхіі гэтага выдатнага скульптара.

Што яднае яго з Беларуссю?.. Ці толькі нараджэнне на бліжняй Смаленшчыне, інача́й кажучы — на тэрыторыі, лічы што, этнічнай Беларусі?.. Не толькі.

У вучылішчы жывапісу, скульптуры і архітэктуры С.Канёнкаў паступіў у 1892 годзе. А ў гэты ж час (з 1889 па 1897 год) там вучыўся і В.Бялыніцкі-Біруля. Безумоўна, яны не маглі не быць знаёмымі. Сурыкаў, Рэпін, Левітан — вось імёны, аднолькава судакранальныя і з Канёнкавым, і з Бялыніцкім-Бірулём, нашым славутым земляком.

Ужо пражыўшы ў мастацтве нямала гадоў, адмераўшы амерыканскую частку свайго лёсу, сталага веку чалавекам Канёнкаў любіў падарожнічаць. І як вынік — напісаў выдатны нарыс “Падарожжы па краіне (Пісьмы з дарогі)”. Цытую па кнізе Сяргея Цімафеевіча “Зямля і людзі”: “...Хто як яго называў, гэты дзень. Хто — “Святам лета, хто — Сёмухай. Але па ўсіх вёсках смаленскіх і беларускіх (мы за адзін дзень пракаціліся ад Смаленска да Гомеля), не дамаўляючыся, звінелі гармонікі, калі ў сціплых, небагатых на выгляд хатах танцаваў народ. На Смаленшчыне — кадрылі, на Беларусі — лявоніху”. І далей: “У... беларускай вёсцы пашчасціла нам убачыць, як танцуюць усе — ад малога да старога. Пяці-шасцігадовыя дзеткі раз-пораз зыркалі на старэйшых і пакуль яшчэ няўклюдна паўтаралі за імі элементы шматфігурнага народнага танца. І старыя танцавалі — падкрэслена грацыёзна, асцярожна.

Ізноў такі каштоўны вопыт, што прафесіяналу толькі чэрпаць і чэрпаць нястомна. Шматфігурная кампазіцыя ў жывапісе ці скульптуры, масавая сцэна на тэатры — вось дзе першапачаткова разварочваюцца, тут да іх і прыглядацца трэба!”

Яшчэ адзін беларускі штрых у творчай і жыццёвай біяграфіі С.Канёнкава — праца над партрэтам нашага суродзіча біёлага Васіля Купрэвіча. Вось апісанне гэтай работы, выкананай у 1967 годзе (Сяргею Цімафеевічу было тады ўжо 93 гады!): “Скульптар увёў у кампазіцыю партрэта выказванні Купрэвіча пра праблему старэння чалавечага арганізма і тайну жыцця і смерці.., выразаўшы іх у дрэве і своеасабліва абраміўшы імі выяву вучонага”. Два варыянты партрэта Купрэвіча — гіпсавы і з дрэва — знаходзяцца ў Смаленскім музеі мастацтваў імя С.Ц.Канёнкава.

Але чаму менавіта Купрэвіч як асоба захапіў Канёнкава? Што каларытнага ў вачах, у твары нашага суродзіча? Адказ — у навуковай біяграфіі Васіля Феафілавіча Купрэвіча. Энцыклапедыі даволі суха тлумачаць яе. Большай часткаю перадаюць спіс пасад, займаемых вучоным у розны час. Сярод іншых — і пасада прэзідэнта Акадэміі навук Беларусі (на працягу 17 гадоў! да самай смерці). Быў Купрэвіч і дырэктарам Батанічнага інстытута АН СССР. Што ж да навуковых абсягаў, то энцыклапедыя так гаворыць пра гэта: “Аўтар прац па фізіялогіі хворай расліны, сістэматыцы грыбоў, глебавай энзімалогіі. Выявіў пазаклетачнае выдзяленне ферментаў у аблігатных паразітаў і прапанаваў гіпотэзу аб прагрэсіўным скарачэнні і спецыялізацыі ферментнага апарата паразітных грыбоў у працэсе іх эвалюцыі. Упершыню даказаў, што расліны могуць засвойваць для фотасінтэзу вуглекіслату, якая трапляе ў каранёвую сістэму з вадою з глебы. Адкрыў пазаклетачныя ферменты, якія выдзяляюцца кончыкамі каранёў вышэйшых раслін, і гэтым даказаў магчымасць гетэратрофнага жыўлення вышэйшых раслін у прыродных умовах. Абгрунтаваў магчымасць выкарыстаць актыўнасць глебавых ферментаў як паказчык біялагічнай актыўнасці глебы”. І гэта сталася першаштуршком для Канёнкава? Канешне ж, не. Першаштуршок высвятляецца з успамінаў сына скульптара Кірылы Сяргеевіча. Вось што ён піша: “Бацька вельмі цікавіўся ўсім, што датычыцца пытанняў прадаўжэння жыцця, выпадкамі доўгажыхарства. Я падбіраў яму розныя матэрыялы з гэтай вобласці. Аднойчы я прынёс яму артыкул пра акадэміка В.Ф.Купрэвіча, надрукаваны ў часопісе “Техника — молодежи”. Гэты выдатны вучоны думае гэтаксама, як і бацька: закона смерці ў прыродзе не існуе. Чалавек падобны рацэ. Гэтак жа, як вада ў рацэ мяняецца, а рака застаецца, так і клетачкі чалавечага арганізма адміраюць і адраджаюцца зноўку, не змяняючы арганізма ў цэлым. Смерць — гэта ненармальнасць, хвароба, з якой можна і неабходна змагацца. Калі яна з’яўляецца вынікам змянення ў генах, трэба выпраўляць гены. Трэба працаваць над гэтай праблемай, і плён будзе дасягнуты”.

Бацька і сын Канёнкавы чыталі літаральна ўсё, што можна было адшукаць пра Купрэвіча, нават праглядалі некаторыя з яго прац.

Сяргей Цімафеевіч стараўся ўявіць сабе Купрэвіча і зрабіў партрэт гэтага вучонага, імя каторага (Канёнкаў не памыляўся ў гэтым) павінна заняць дастойнае, ганаровае месца сярод самых першых вучоных чалавецтва хаця б ужо за такія вось словы: “Няма аб’ектыўнага закона прыроды, каторы б сцвярджаў: так, жывы арганізм павінен паміраць. І ніколі не будзе адкрыты гэты закон, яго няма ў прыродзе”.

Так у гісторыі мастацтва паядналіся два лёсы, два тытаны чалавечай дзейнасці.

Беларусь і Канёнкаў... Усе нітачкі-повязі вядомага скульптара з нашай старонкай яшчэ не адкрыты. Наперадзе — удумлівы пошук, высвятленне многіх і многіх акалічнасцяў. Відаць, і лісты Канёнкава ішлі на Беларусь. Жыў жа Сяргей Цімафеевіч дзейсна, энергічна. А ў Брэсце, пачынаючы з 1966 года, рэктарам інжынерна-будаўнічага інстытута працаваў адзін з руплівейшых даследчыкаў творчасці Канёнкава — Ігар Дзмітрыевіч Белагорцаў. Таксама смалянін, зямляк скульптара.

І напрыканцы давайце зазірнём у першую манаграфію пра Канёнкава (Пецярбург, “Светозар”, 1920) Сяргея Глаголя: “Канёнкаў родам з старадаўняй зямлі крывічоў, дзе здаўна “грязи смоленские невылазные и леса брянские дремучие”, дзе жывуць “лесовики, спокойно сосредоточенные люди, точно знающие какую-то тайну”... Пра нашу ж, крывіцкую, старонку!

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ**

# “ЦУДАМ АЦАЛЕЎ ТЭАТР...”

***Чым далей ад нас падзеі Вялікай Айчыннай вайны, тым больш каштоўным робіцца кожны дакумент, кожнае сведчанне пра тыя трагічныя дні. Сярод асабістых матэрыялаў вядомага беларускага пісьменніка і тэатразнаўцы Яўгена Рамановіча, якія захоўваюцца ў Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва, ёсць адзін, які кранае сваім драматызмам, апальвае гарачым подыхам вайны. Гэта ліст яго жонкі, Зінаіды Крачко, — першая вестачка, дасланая Першаму Беларускаму дзяржаўнаму тэатру ў Сібір з вызваленага ад немцаў Мінска.***

***Зінаіда Мацвееўна доўгі час працавала ў БДТ-1 сакратаром-справаводам, добрасумленна адносілася да сваёй працы і шчыра любіла тэатр, адчувала сябе часцінкай гэтага калектыву, які стаў для яе родным і неабходным. Пачуццё было ўзаемным. Акцёры і тэхнічны персанал вельмі паважалі сваю “Зіначку” за далікатнасць, добразычлівасць, інтэлігентнасць, душэўную стойкасць і разважлівасць. “Вы ўмацоўваеце сабой веру ў існаванне сумленных, высакародных, прыгожых людзей. Вас любіць увесь калектыў — і гэта павінна саграваць Вас у жыцці. Гэта не кожнаму дадзена”, — пісала ёй у адказ актрыса Вольга Галіна-Александроўская.***

***Шчаслівае мірнае жыццё было знішчана чорным чэрвеньскім ранкам 1941 года. Вайна разлучыла сем’і, разбурыла чалавечыя лёсы. Яўген Рамановіч, які працаваў загадчыкам літаратурнай часткі БДТ-1, апынуўся з тэатрам у эвакуацыі ў Сібіры, а жонка з сынамі і яго хворай маці засталася ў акупіраваным немцамі Мінску. Ліст Зінаіды Крачко, напісаны пасля вызвалення Мінска, размінуўся з адрасатам, але дайшоў да нашых дзён, як горкі напамін пра жахі вайны, невыносныя выпрабаванні і трываласць чалавечага духу ў самых драматычных абставінах жыцця.***

***Ліст друкуецца ў перакладзе на беларускую мову з невялікімі скарачэннямі (ф. 243, воп. 1, с. 309, л. 1-3).***

***г. Мінск, 21.07.1944***

Дарагія таварышы, усе, усе, усе!

Як прыемна гучыць гэта слова “таварыш”, ад якога мы ўжо адвыклі за 3 гады. Столькі ёсць слоў, столькі чаго расказаць, а з чаго пачаць, не ведаю. Перажыта так шмат, уся душа перагарэла, нерваў ужо няма. Усе мы бачылі сваімі вачамі і павешаных, і няшчасных галодных палонных, якія пілі ваду з вулічных луж і з-за шалупіння гнілой бульбы ледзь горла не перагрызалі адно аднаму, знішчэнне яўрэяў, калі кроў лілася па вуліцах, і масавыя забойствы палонных, калі забітымі ў патыліцу была ўсеяна ўся Савецкая ад выстаўкі да Таварнай, і спальванне ў хатах людзей, якія падазраваліся ў сувязі з партызанамі, і, нарэшце, з самага пачатку вайны і аж да сённяшняга дня — бамбёжкі. Можаце ўявіць сабе гэтыя абставіны, калі кожны дзень чакаеш налёту спачатку савецкіх, а потым нямецкіх самалётаў, на ноч забіраешся ў яму, а на досвітку ўваходзіш у хату. Усе нервовыя, дзеці таксама.

Як мы чакалі гэтага дня, як мы марылі пра той шчаслівы дзень, калі мы зможам, нарэшце, вольна ўздыхнуць, адчуць сябе па-сапраўднаму людзьмі. Гэты дзівосны дзень настаў, мы яго перажылі, яго не забудзеш ніколі. Асабліва востра яго адчувалі ўсе тыя, хто так цярпліва і так горача чакаў, таму што апошнія дні ўцёкаў немцаў суправаджаліся ўсімі жахамі — выбухамі, пажарамі. Мінск спалены на тры чвэрці, проста жахліва становіцца, калі праходзіш праз увесь горад, — толькі і засталіся драўляныя хацінкі па ўскраінах і дзе-нідзе сярод іх каменныя дамы. Праўда, нейкім цудам ацалеў наш тэатр, дом ЦК (новы), палова Дома Чырвонай Арміі з тэатрам, Дом урада і яшчэ сёе-тое. Але вораг па-драпежніцку знішчае і тое, што засталося, не лічачыся зусім з насельніцтвам. Мы жывём так: раніцою кіпіць работа, а ўвечары развітваемся ўсе, таму што не спадзяёмся сустрэцца заўтра. Было ўжо два такія страшэнныя налёты, асабліва апошні, учарашні. Відавочна, што ўвесь раён ад Заходняга да Бетоннага моста, найбольш ацалелы — знесены, спалены дашчэнту. У мяне такі настрой, што наўрад, калі будуць яшчэ такія налёты, мы з Вамі сустрэнемся. Якое гэта было вялікае гора, няшчасце, што мне не ўдалося з сям’ёй выехаць у чэрвені 1941 г. Пакінуць дзяцей я не магла і не мела права. Пісаць пра гэтыя пакуты доўга, калі будзем жывыя і сустрэнемся — раскажу. Давялося мне пазнаёміцца і з камерай СД. Але ўсё гэта ўжо ў мінулым. І так нясцерпна хочацца, каб бацька ўбачыў дзяцей, якіх з такімі цяжкасцямі захавала жывымі і здаровымі, а пасля гэтага ўсё ж такі хочацца жыць, бачыць дзяцей ужо дарослымі, бачыць вынікі сваёй працы. Як часта і цёпла я ўспамінала ўвесь тэатр, якія Вы ўсе цудоўныя акцёры. Калі я, прыйшоўшы на працу ў тэатр, разбірала фотаархіў, моцна знішчаны, але ўсё ж такі, у асноўным, ацалелы, я перажывала да фізічнага болю ў грудзях сваю адарванасць, адзіноту і плакала, плакала бясконца. Як балюча і крыўдна, што ўсё, створанае з любоўю, і ўсё такое любімае ў родным Мінску, — усё так па-варварску знішчана, і ўсё патрэбна пачынаць ізноў.

Прывітанне ўсім, усім, мае родныя і дарагія, прывітанне! Ці памятаеце і любіце Вы мяне, як памятаю і люблю я?! Які гэта будзе цудоўны непаўторны дзень, калі я Вас усіх убачу, калі Вы ўсе вернецеся ў Мінск! Я ўсё ўяўляю сабе, якія Вы зараз усе: і Уладамірскі, і Глебаў, і Галіна, і Ждановіч, і Ржэцкая, і Рахленка, і Кудраўцаў, і Станюта, і Шапко, і Бірыла, і Лідская, і Пола, і Фаня Яфімаўна1), і Аркадзь Рыгоравіч2), і ўсе, усе, — і ўсё ніяк не магу ўявіць. Хора Крыгель3) ужо старэнькая ці такая, як была? А Міхась Пржыбытка4)? А Грыша Злотнікаў5)?

Фаня Яфімаўна, чырвоны занавес, пра які Вы так турбаваліся, нягоднікі знялі і ён знік, невядома — украдзены ці вывезены. Няма і машынак у тэатры, якіх ужо было тры. Іх вывезлі ваенныя савецкія часці, калі ўвайшлі ў горад. Калі ёсць магчымасць — вязіце з Томска. Вядома, увесь гардэроб расцягнулі, як і ўсё ў горадзе пасля змены ўлады. Тэхнічны штат амаль увесь на месцы, акрамя Пужэвіча і Карабыкі, якія памерлі з голаду.

На гэтым канчаю, ужо зусім цёмна, святла няма, ды і шмат нешта атрымалася.

Яшчэ раз прывітанне ўсім.

ЗІНА.

*Публікацыю падрыхтавала Таццяна КЕКЕЛЕВА, навуковы супрацоўнік БДАМЛіМ*

*1) Алер, дырэктар БДТ-1.*
*2) Гайдарын, намеснік дырэктара БДТ-1.*
*3) Загадчык касцюмернага цэха.*
*4) Машыніст сцэны.*
*5) Вядучы спектакляў.*


ЛіМ ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ЗАСНАВАЛЬНІКІ
Саюз беларускіх пісьменнікаў; Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь; калектыў рэдакцыі газеты "Літаратура і мастацтва"

ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА

*Газету рэдагавалі*

| | |
|---|---|
| *Х.Дунец* | (1932-35) |
| *І.Гурскі* | (1935-41) |
| *А.Куляшоў* | (1945-46) |
| *М.Горцаў* | (1947-49) |
| *П.Кавалёў* | (1949-50) |
| *В.Вітка* | (1951-57) |
| *М.Ткачоў* | (1957-59) |
| *Я.Шарахоўскі* | (1959-61) |
| *Н.Пашкевіч* | (1961-69) |
| *Л.Прокша* | (1969-72) |
| *Х.Жычка* | (1972-76) |
| *А.Асіпенка* | (1976-80) |
| *А.Жук* | (1980-86) |
| *А.Вярцінскі* | (1986-90) |

**Галоўны рэдактар Мікола ГІЛЬ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**
Святлана БЕРАСЦЕНЬ,
Міхась ЗАМСКІ,
Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ,
Жана ЛАШКЕВІЧ,
Алесь МАРЦІНОВІЧ,
Барыс ПЯТРОВІЧ — *першы намеснік галоўнага рэдактара,*
Юрась СВІРКА,
Віктар ШНІП — *намеснік галоўнага рэдактара*



**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19

**ТЭЛЕФОНЫ:**
прыёмная рэдакцыі — 332-461
намеснікі галоўнага рэдактара — 332-525, 331-985
аддзелы:
публіцыстыкі — 332-525
пісьмаў і грамадскай думкі — 331-985
літаратурнага жыцця — 332-462
крытыкі і бібліяграфіі — 332-204
паэзіі і прозы — 332-204
музыкі — 332-153
тэатра, кіно і тэлебачання — 332-153
выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў — 332-462
навін — 332-462
мастацкага афармлення — 332-204
фотакарэспандэнт — 332-462
бухгалтэрыя — 268-640





**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра "ЛіМ"**
**Апаратныя сродкі і тэхнічная падтрымка — фірма "Дайнова"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)
Індэкс 63856. Наклад 6459.
Нумар падпісаны 12.10.1995 г.
Заказ 5210.
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12